НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА
№ 4 (889) 28 студзеня 2015
www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

ГІСТОРЫЯ
БЕЛАРУСІ

0



Міністр адукацыі Міхаіл Жураўкоў заявіў пра намер вярнуць выкладанне гісторыі і геаграфіі Беларусі на беларускую мову. **Старонка 2.**
На калажы: прыкладна так выглядалі першыя за часамі незалежнасці падручнікі па гісторыі. Для ўсіх класаў яны былі толькі па-беларуску.

# Намер вярнуць вывучэнне гісторыі і геаграфіі Беларусі па-беларуску выклікаў нервовую рэакцыю ў Расіі

Расійскія СМІ і аналітыкі назвалі гэта «**стаўкай на радыкальны нацыяналізм**».

21 студзеня новы міністр адукацыі Беларусі Міхаіл Журавкоў заявіў: «Вывучаць геаграфію і гісторыю Беларусі трэба на беларускай мове. Я мяркую, што паступова самі дзеці прыйдуць да таго, што захочуць вывучаць палову ці большую частку прадметаў агульнаадукацыйнай школы на беларускай мове. Толькі праводзіць гэты працэс педагог павінен акуратна, з любоўю да мовы і разуменнем дзіцячай псіхалогіі».

Гэтае выказванне мала рознілася ад заяваў ранейшага міністра, Сяргея Маскевіча. Гаворка ідзе не пра ўвесь курс гісторыі і геаграфіі, а толькі пра гісторыю і геаграфію Беларусі. Да 2000-х іх вывучалі па-беларуску, але пасля перавялі працэс на рускую мову. Хоць цяжка сабе ўявіць, каб, скажам, у Расіі геаграфію і гісторыю Расіі вывучалі не па-руску, а на іншай мове.

Ранейшыя пажадальныя заявы Маскевіча ніякіх практычных вынікаў не мелі. Дый, здавалася б, пытанні адукацыі — выключна ўнутраная справа Беларусі. Тым не менш, нават гэтага сціплага пажадання зрабіць нешта, каб палепшыць веданне беларускай мовы маладым пакаленнем, стала дастаткова, каб шэраг фінансаваных дзяржавай СМІ і аналітычных цэнтраў Расіі ўзнялі вялікі шум.




**Расейскія прапагандысты лічаць міністра адукацыі Міхаіла Журавкова «радыкальным нацыяналістам».**

«Міністр адукацыі Беларусі Міхаіл Журавкоў заявіў, што ў бліжэйшы час выкладанне гісторыі і геаграфіі на рускай мове ў школах будзе забаронена», — у характэрнай гёбельсаўскай манеры напісала інфармацыйнае агенцтва «Рэгнум». Яно фактычна з'яўляецца інструментам стварэння сеткі агентаў уплыву ў былым СССР, замаскіраванае пад сродак масавай інфармацыі.

«Сумна канстатаваць, што Беларусь дакладна ідзе антырасейскім курсам. Улады рэспублікі ідуць па шляху нацыяналізму ўкраінскага толку. Пакуль гэта не гэтак відавочна, але сітуацыя далей будзе толькі пагаршацца», — заявіў намеснік дырэктара Цэнтра ўкраіністыкі і беларусістыкі Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта Багдан Бяспалька.

«У Беларусіі пачалася чарговая хваля дэрусіфікацыі, гэта факт», — туруе кіраўнік галаслівага інтэрнэт-партала з паказальнай назвай «Імперыя» Юрый Баранчык, які пераехаў жыць і працаваць у Маскву з Беларусі.

«Імперыя» адыграла важную ролю ў арганізацыі беспарадкаў у Данбасе, якія перараслі ў крывавую вайну.

«Па сутнасці, беларускае кіраўніцтва цяпер канчаткова скінула маскі, — страшыць Баранчык. — Калі сітуацыя не зменіцца, гадоў праз пяць беларускі нацыяналізм можа зраўняцца па сваёй ярасці з украінскім».

Як відаць з гэтых выказванняў, імперскія сілы ў Расіі можа задаволіць толькі поўная адмова беларусаў ад сваёй мовы і культуры. Яны рыхтуюць расійскую грамадскую думку да сілавога ўмяшання ў жыццё нашай краіны пад прэтэкстам процідзеяння выдуманым «нацыяналістам».

Пакуль рукі гэтых сілаў звязаныя Украінай, якая аказала супраціўленне планам расчляненя краіны. Нацыянальная свядомасць украінцаў аказалася мацнейшай, чым меркавалі ў Маскве. Пасля рэалізацыі сваіх планаў ва Украіне ці ў выпадку іх канчатковага блакавання гэтая шація можа пераарыентавацца на Беларусь.

«Шляхам стварэння альтэрнатыўнай экспертнаграмадскай думкі і апоры на супрацоўнікаў спецслужбаў Украіны, а цяпер і Беларусі (бо ў любым выпадку для расейскіх інтэгратараў на чарзе менавіта яна) можна ствараць моцны прарасійскі рух, здольны не толькі аказваць уздзеянне на грамадскую думку, але і змяняць палітыку і кіраўніцтва гэтых краін у патрэбным Расіі рэчышчы», — засцерагае былы супрацоўнік Расійскага інстытута стратэгічных даследаванняў доктар гістарычных навук Аляксандр Сыцін у сваім артыкуле «Анатомія правалу: Пра механізм прыняцця знешнепалітычных рашэнняў Крамля». Гэта аналітычны цэнтр пры Службе замежнай выведкі Расіі, які цяпер перайшоў у падпарадкаванне Адміністрацыі прэзідэнта РФ.

У 1990-я і 2000-я Расія ўзнагароджвала Беларусь шчодрымі нафтагазавымі субсідыямі ўзамен за вайскова-палітычны саюз і палітыку русіфікацыі. Аднак, як паказалі падзеі ў Крыме і Данбасе, доўгатэрміновая мэта Расіі — інкарпарацыя тых суседніх краін ці іх рэгіёнаў, якія дасягнулі высокай ступені абрусення.

**Мікола Бугай**

# Дацэнт БДУ назваў беларускамоўную прастору «адстойнікам русафобскіх маргіналаў»

«Беларускамоўная прастора стала адстойнікам русафобаў-маргіналаў», — напісаў Усевалад Шымаў у каментах на старонцы аналітыка-лукашэнкаўца Юрыя Шаўцова ў «Фэйсбуку». Шаўцоў ані выдаліў гэтае выказванне, ані спрачаўся з калегам.

Моўная прастора — складаны лінгвістычны тэрмін, які азначае арэал распаўсюджвання той ці іншай мовы.

Шымаў працуе дацэнтам на кафедры паліталогіі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Ён калумніст «Советской Белоруссіі», сябар рэдакцыйнай рады і аўтар сайта «Западная Русь», ідэалогія якога — трыадзінства рускага народа.

Шымаў — сын рэктара БДЭУ і былога міністра эканомікі Беларусі Уладзіміра Шымава і брат супрацоўніка амерыканскага радыё «Свабода» Яраслава Шымава.

Усевалад Шымаў у адным са сваіх апошніх дакладаў засцерагае: «...нягледзячы на тое, што беларускі прэзідэнт А. Лукашэнка — чалавек русафільскіх поглядаў, які німала зрабіў для захавання максімальна цесных і адкрытых адносінаў з Расеяй, — агульная дзяржаўная палітыка накіравана на фарміраванне беларускай нацыі, якая мысліць сябе па-за рускім кантэкстам».

**Сяргей Гезгала**

Салідарнасць

# Логвінаў просіць дапамогі

Незалежны выдавец і заснавальнік кнігарні «Логвінаў», якому пагражае штраф у 970 мільёнаў рублёў, выступіў з заклікам падтрымаць кнігарню матэрыяльна.

Логвінава судзяць за працу без ліцэнзіі, якую самі ж дзяржаўныя органы адмаўляліся даваць на надуманых падставах.

Ахвяраванні на ўратаванне выдавецтва «Логвінаў» можна зрабіць двума спосабамі.

1) Прынесці грошы (толькі ў беларускіх рублях) у кнігарню (Мінск, пр-т Незалежнасці, 37а). Звярнуцца трэба да прадаўца, а пры сабе мець пашпарт.

2) Даслаць на літоўскі рахунак Літаратурнага дома «Логвінаў» (праз інтэрнэт-банкінг альбо праз сістэму PayPal) у далярах і еўра:

LT052140030003236738
Logvino literaturos namai
Nordea Bankas, Bank code 21400
Swift code NDEALT2X

## Сцісла

**За год насельніцтва паболела на 13 тысяч чалавек**

Па стане на 1 студзеня 2015 года ў Беларусі жыло 9 481 000 чалавек. Лічба павялічылася перадусім за кошт мігрантаў. Колькасць насельніцтва Беларусі павялічваецца ў апошнія гады пасля 20-гадовага змяншэння.

**Раскрытае забойства прадавачак у Лідзе**

Двайное забойства было ўчынена паўтара года таму. Каля крамы былі знойдзеныя целы двух прадавачак, збітых да смерці металічнай трубой. Цяпер прызнальныя паказанні па той справе даў затрыманы па іншым забойстве. 28-гадовага раней судзімага сірату з Баранавіцкага раёна вінавацяць у смерці яшчэ адной прадавачкі, цяпер у Лідскім раёне. Яго ўдалося затрымаць у цягніку з крадзенымі грашыма. Абвінавачанаму пагражае расстрэл.

**«Беларуськалій» аддасць у бюджэт 75% прыбытку**

На кампанію ўскладзеныя дадатковыя патрабаванні. Раней «Беларуськалій» пералічваў 20% прыбытку.

**Еўра на дзесяцігадовым мінімуме**

Еўра таннее ў дачыненні да большасці сусветных валют. Суадносіны з далярам падчас таргоў падалі да 1,1 даляра за 1 еўра. Гэта мінімум з 2003 года. Прычына ў тым, што ўзгодненая з Еўрасаюзам праграма па выхадзе Грэцыі з крызісу аказалася пад пагрозай пасля перамогі папулістаў з Сірызы.

ЯМ

## Апытанні на nn.by

**Ці ўхваляеце Вы рашэнне Міхалка часова пераехаць ва Украіну?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 313 | 19% |
| Не | 128 | 8% |
| Я яго разумею | 496 | 29% |
| Гэта ягоная асабістая справа | 551 | 33% |
| Мне ўсё адно | 184 | 11% |

Прагаласавала 1672 чалавекі

## Самае чытанае на nn.by за 21—27 студзеня

1 Забойцы 18-гадовай Юліі Саламацінай зварылі сваю ахвяру
2 Намер міністра адукацыі вярнуць вывучэнне гісторыі па-беларуску выклікаў нервовую рэакцыю ў Расіі
3 24-гадовы беларус загінуў у ЗША ў бойцы ў выніку спрэчкі за Украіну
4 Беларускі бярозавік у ЗША называюць хітом сезона і прадаюць за $42
5 Украінскія байцы пакінулі руіны Данецкага аэрапорта. Яго абарона доўжылася 242 дні
6 Прарасійскія сілы абстрэльваюць Марыупаль з «Градаў», 30 чалавек загінула
7 Лукашэнка ў атачэнні прыгожых дзяўчат на з'ездзе БРСМ
8 «Мазда» з чырвона-зялёным сцяжком на антэне
9 Лідар «ДНР» Захарчанка: Перамір'я не будзе, мы будзем наступаць да межаў Данецкай вобласці
10 Расіяне ў Данбасе цісну на ўсім фронце, украінцы пакінулі 31-ы блокпост



Абарона Данецкага аэрапорта доўжылася 242 дні. Яе параўноўваюць з абаронай Брэсцкай крэпасці ці Севастопаля ў гады Другой сусветнай. Абаронцаў аэрапорта прэса празвала «кібаргамі». Яны трымаліся ў комплексе будынкаў, якія бесперапынныя абстрэлы паступова ператварылі ў руіны.

Першы штурм украінцы адбілі 26 мая. Сярод забітых баевікоў тады было 33 грамадзяніна Расіі.

Пасля трох месяцаў баёў, 1 снежня, баевікам ДНР удалося захапіць будынак старога тэрмінала.

Сімвал аэрапорта, дыспетчарская вежа, рухнула 13 студзеня. З 13 па 21 студзеня баі ішлі ў будынку новага тэрмінала. Даходзіла да рукапашных.

Расійскія сілы захапілі верхнія паверхі будынка, украінцы трымаліся ў ніжніх. Урэшце, расійцы заклалі выбухоўку і падарвалі перакрыцці між паверхамі. Апошнія кібаргі загінулі пад заваламі.

Сярод абаронцаў аэрапорта і паселішча Пяскі, праз які да аэрапорта ішла «дарога жыцця», былі і беларускія добраахвотнікі, сярод іх, магчыма, і былы палітвязень Васіль Парфянкоў.

# Сітуацыя ва Украіне развіваецца па найгоршым сцэнары

**Баі ідуць** пад Марыупалем і Дэбальцавам.

Тры разы за апошнія тыдні Украіна была ў шоку. Першы раз, калі снарад ад «Града», выпушчаны з раёна Дакучаеўска, што ў ДНР, трапіў у аўтобус на ўкраінскім блокпасце пад Валнавахай.

У аўтобусе ехалі звычайныя людзі — з «ДНР» людзі ездзяць у раёны з украінскай уладай, каб атрымаць там пенсіі, дапамогу на дзяцей... 13 чалавек загінула.

Праз некалькі дзён снарад падае ў тралейбус у Данецку. Там загінулі 8 чалавек. Многія загаварылі аб спецыяльнай правакацыі, каб адцягнуць увагу ад трагедыі Валнавах. Або проста снарад прыляцеў з лініі супрацьстаяння. Праўда, яна знаходзіцца за 15—20 км ад дадзенага тралейбуснага прыпынку, а ўзарвалася міна ці артылерыйскі снарад, якія на такую адлегласць не дабіваюць.

Нарэшце, у суботу 24 студзеня баевікі з «Града» і «Урагана» абстралялі Марыупаль. 30 чалавек загінула, 97 параненыя.

Кіраўнік «ДНР» Захарчанка заявіў пра намер наступаць «да граніц Данецкай вобласці», а пры патрэбе і далей. Ён заявіў, што перамір'яў больш не будзе.

Захарчанку, 38-гадовага прадпрымальніка і актывіста прарасійскай арганізацыі, ніхто не знаў і не ведаў, пакуль Масква ўлетку 2014-га не вырашыла адклікаць з Данбаса палкоўніка Гіркіна, які стаў некіраваным. Крымам пасадзілі кіраваць Аксёнава, які на свабодных выбарах набіраў 4% галасоў. Захарчанка не меў і 4-х.

Стратэгію прадаўжэння вайны абраў, канечне, не Захарчанка, ён ніхто і нішто, зброя і добраахвотнікі прыбываюць з Расіі. Гэта быў выбар Масквы. Ёй трэба, каб агонь канфлікту тлеў, каб рана на целе Украіны заставалася незагойнай, бо такая Украіна не можа падняцца з кален эканамічнага крызісу.

Зацятыя баі ідуць па ўсёй лініі фронту, ад Станіцы Луганскай, дзе расійскія сілы спрабавалі фарсіраваць раку Северскі Данец, да Марыупаля, дзе ўкраінцы моцна акапаліся і адбілі спробу штурму. А вось у Дэбальцаве 8000 украінскіх салдат аказаліся, практычна, у катле.

Падзеі цяпер можна з поўным правам назваць расійска-ўкраінскай вайной — Вярхоўная Рада Украіны прыняла пастанову, у якой вызначыла Расію як «краіну-агрэсара».

Кіраўнікі краін Захаду стаяць перад выбарам, што рабіць далей. Яны цвёрда пастанавілі войскаў і істотнай зброі ва Украіну не пасылаць, каб украінска-расійскі канфлікт не перарос у Трэцюю сусветную. Спрабуюць спыніць Расію санкцыямі. Цяпер абмяркоўваецца, ці адключаць расійскія банкі ад міжнароднай сістэмы Свіфт. Гэта будзе азначаць поўную фінансавую ізаляцыю Расіі. Раней такая мера ўжывалася толькі супраць Ірана ў 2012 годзе.

Дык і тут кіраўнік пуцінскага «Внешторгбанка» Косцін ужо заявіў, што гэта будзе раўназначна «абвяшчэнню вайны».

Пра настроі ў галовах расійскай эліты сведчыць запіс у Фэйсбуку расійскага дэпутата Сяргея Маркава. «Пасля вызвалення Запарожжа і калідора на Крым Расіі будуць пагражаць вайной. Пасля вызвалення Харкава і Адэсы ўсё будзе катэгарычна наадварот, будуць перамовы і абмен».

А беларусы ў гэтыя дні згадваюць слова дзядоў: «Унучак, абы вайны не было!» Галоўнай задачай палітыкі Беларусі ў гэтых умовах застаецца не даць сябе ўцягнуць у магчымую вайну ні на якім баку, не даць паўтарыцца трагедыям XX стагоддзя.

**Мікола Бугай**

**Абама**

выключыў магчымасць ваеннай канфрантацыі з Расіяй ва Украіне:

«Мы будзем працягваць той падыход, які мы выбралі, а менавіта — павялічваць ціск на Расію, — сказаў Абама ў адказ на пытанне пра Украіну на прэс-канферэнцыі ў сталіцы Індыі Дэлі, дзе ён знаходзіўся з візітам, што мае замацаваць стратэгічны саюз дзвюх дзяржаў. — Я буду разглядаць усе дадатковыя варыянты, якія ў нас ёсць, акрамя ваеннай канфрантацыі, і буду спрабаваць вырашыць гэтае пытанне», цытуюць Абаму інфармацыйныя агенцтвы.

**Копач**

Польшча не будзе ўдзельнічаць ва ўзброеным канфлікце на ўсходзе Украіны. Пра гэта заявіла прэм'ер-міністр Эва Копач ў эфіры Польскага радыё.

**Лукашэнка**

23 студзеня размаўляў праз тэлефон з Уладзімірам Пуціным, а 7 студзеня — з Пятром Парашэнкам.

**Унук Сталіна: Украінцы і беларусы маюць права на расійскія рэсурсы**

Украінцы, беларусы і іншыя народы былога СССР таксама маюць права на расійскія рэсурсы — такое меркаванне выказаў Яўген Джугашвілі, унук Іосіфа Сталіна ў інтэрв'ю брытанскай газеце Daily Mail.

«У час Другой сусветнай вайны рускія, украінцы, беларусы і іншыя нацыі разам змагаліся супраць нацызму ў складзе Чырвонай арміі, абараняючы сваю краіну і яе рэсурсы. Мы аддзяліліся адзін ад аднаго, калі СССР распаўся. Але чаму б не прадаваць Украіне гэтыя рэсурсы па ніжэйшай цане? Продкі украінцаў абаранялі гэтыя рэсурсы. Чаму цяпер мы патрабуем ад іх вышэйшую цану, чым ад Германіі? Хіба гэта справядліва? Гэта ўсё таму, што злодзеі прыбралі да рук уладу, а не разумныя людзі», — лічыць ён.

# Багінская: Міліцыянты мацюкаліся і слухалі зэкаўскі блатняк

Актывістам далі суткі **за акцыю памяці Жызнеўскага.**

Улады працягваюць жорсткую палітыку задушэння любога выказвання грамадскага меркавання. 22 студзеня беларусы, якія прыйшлі да помніка Тарасу Шаўчэнку ў Мінску, каб ушанаваць памяць Нябеснай сотні і Міхаіла Жызнеўскага, былі затрыманыя і асуджаныя.

Алесь Макаеў і Максім Вінярскі атрымалі па 15 сутак арышту, Яўген Батура і Мікалай Колас — па 10, Вольга Мікалайчык — 5. Усіх іх прызналі вінаватымі ў парушэнні парадку арганізацыі масавых мерапрыемстваў.

Што адбылося тым вечарам, «НН» высветліла ў пенсіянеркі Ніны Багінскай, якая атрымала штраф 3,6 млн рублёў: «Збор быў прызначаны а 8-й. Ужо тады ўсё было ачэплена людзьмі ў цывільным з рацыямі. Было і некалькі міліцыянтаў, якія звычайна стаяць ля пасольства.

Людзі падыходзілі і сыходзілі, але я і яшчэ некалькі чалавек чакалі Вольгу Мікалайчык, якая спазнялася. Яна ехала з Гомеля, у яе быў партрэт Жызнеўскага. Вольга прыехала прыкладна а 9-й вечара. Тады мы падышлі да помніка, паклалі кветкі, запалілі свечкі, павесілі партрэт. Я дастала бел-чырвона-белы сцяг з жоўта-блакітнай стужкай. Мы памаліліся, праспявалі гімн Украіны і «Магутны Божа».

Людзі ў цывільным нам не заміналі, а толькі здымалі на камеру. А потым, калі ўсё скончылася, на нас наляцелі і пасадзілі ў аўтобус.

У аўтобусе мы пачалі спяваць малітву, а міліцыянты гучна ўключылі музыку, каб нас перабіць. А музыка тая была — зэкаўскі блатняк, мацюкі на мацюках. А яны сядзелі і рагаталі.

У пастарунку нас завялі ў калідор і загадалі стаць тварам да сцяны, падняць рукі ўверх і так стаяць. Я адмовілася падпарадкавацца і сказала, што без адабранага кіёчка не магу стаяць, і прытулілася спінай да сцяны. Потым мяне адвялі, а што было з іншымі я не ведаю. Пратакол складалі без мяне, але я адмовілася яго падпісваць, сказала, што не разумею пратакол, напісаны па-руску».

Ніна Багінская кажа, што міліцыянты падаліся ёй падазронымі — беларускія праваахоўнікі, на яе думку, звычайна не такія: «У мяне склалася ўражанне, што яны з Расіі. Бо звычайна нашыя міліцыянты мацюкаюцца між сабой. Але гэтыя казалі нам усялякія брыдкасці ў твар, такая лаянка! І потым, трэба ж ім штосьці адказваць. Ну я і сказала пра нашу мову, культуру. А яны мне кажуць: «Якая тут у вас культура? Беларусь заўсёды была ці пад немцамі, ці пад палякамі, ці ў складзе Расіі. Тут няма вашай дзяржавы». І вось гэтае «ваша» мяне насцярожыла і навяло на думкі, што яны не далучаюць сябе да нашай культуры, калі нават і з'яўляюцца грамадзянамі. Хоць мне потым старэйшыя міліцыянты сцвярджалі, што яны нашы, проста ў іх дурасць маладая».

**Кірыла Хілько**

# Былы міністр замежных справаў Беларусі назваў Меркель «лахудрай»

А Беларусь Іван Антановіч назваў **«савецкім праектам»**.

27 студзеня ў Лінгвістычным універсітэце прайшла сустрэча з былым міністрам замежных справаў Беларусі Іванам Антановічам. Нагода для сустрэчы — прэзентацыя кнігі «Беларусь у глабальным свеце».

Варта адзначыць адразу, што Антановіч — бліскучы аратар. Сённяшнім чыноўнікам ёсць чаму ў яго вучыцца. Гаворыць ён вобразна, з жартамі. Ён сыпаў рознымі байкамі з мінулага. Напрыклад, як былога міністра замежных спраў СССР Андрэю Грамыку жонка да канца жыцця пяшчотна называла «Андруша», а не «Андрюша».

Сам Антановіч на беларускую мову перайшоў толькі аднойчы. Калі згадаў Вялікае Княства Літоўскае. Ён сказаў, што спрабаваў разабрацца, «ці наша гэта была дзяржава, ці не наша». Англійская мова з вуснаў прафесара гучала часцей.

Што тычыцца асноўнай часткі выступу, то там было шмат неадназначнага.

Выступоўца свята пераканананы, што ў сённяшніх постсацыялістычных краінах, што пайшлі па шляху інтэграцыі з Еўрасаюзам, «маленечкая доля суверэнітэту». «Ніводная з гэтых краін не дасягнула ўзроўню развіцця 1991 года, — сказаў Антановіч, але статыстычных звестак, канечне, не прывёў. — Усходняя Еўропа ляжыць. Не атрымалася ў іх светлая будучыня, але і ў нас не атрымалася».

«Хочаш размаўляць па-руску — на здароўе, па-беларуску — на здароўе, па-габрэйску — на здароўе. Па-польску... У нас многія па сёння размаўляюць па-польску. Я зайшоў у касцёл Святых Сымона і Алены, там надпісы па-польску. Навошта? Не трэба нам пускаць чужыя мовы». Праз нейкі час ён засяродзіўся на «агрэсіўным укараненні каталіцтва ў Беларусі».

Антановіча спыталіся, якой ён бачыць будучыню Еўропы. «Вялікая Дойчлянд з невыразнай канцлеркай, я часам на лекцыях называю яе лахудрай [пасля гэтае слова ў дачыненні Ангелы Меркель было яшчэ раз паўторана — «НН»], падпарадкавала сабе Еўропу, як некалі было пры Гітлеру. Усе куплялі нямецкія тавары, але не было грошай за іх расплаціцца. Германія давала на гэта новыя крэдыты. Краіны траплялі ў залежнасць. Цяпер мы бачым, як першай памірае Грэцыя. Еўропа распадзецца», — канстатаваў прафесар.




Пра Эстонію ён казаў, што цяпер там сітуацыя, як пасля вайны, што ў вёсках засталіся толькі старыя і дзеці. Мабыць, Іван Іванавіч даўно не бываў не толькі ў Польшчы, але і ў беларускай вёсцы.

«Еўропу выведзе з крызісу толькі моцны аўтарытарызм. Як было ў ЗША за часамі Рузвельта».

Не абышлося і без пытання пра Крым і «Наварасію». Пра Крым Антановіч сказаў адназначна: «Мы адпомсцілі за Косава, якое з мясам было выдранае ад Сербіі». Пасля ён дадае, што «калі б на гэтым спыніліся [Хто? Расія? — «НН»], то ўсё было б акей, Расія і Украіна памірыліся б».

У адным з момантаў сустрэчы прагучала і пра масонаў — ну як без іх! — што не Абама кіруе ў ЗША, а таямнічыя групоўкі масонаў.

**Зміцер Панкавец**

# Калінкіна: Нас пасадзілі «на кручок» напярэдадні выбараў

Вярхоўны суд Беларусі пакінуў у сіле папярэджанне Міністэрства інфармацыі газеце «Народная воля». Суд падтрымаў пастанову Мініінфармацыі аб тым, што ў сваёй аўтарскай калонцы «На ланцуг!» Святлана Калінкіна распаўсюджвала непраўдзівую інфармацыю аб немагчымасці Беларусі пакінуць ЕАЭС паводле ўласнага жадання.

Сама Калінкіна ў каментары «НН» патлумачыла, што такое рашэнне суда — хутчэй за ўсё падрыхтоўка да выбараў 2015 года:

«Хутчэй за ўсё, тут справа ў надыходзячых прэзідэнцкіх выбарах. Усе ведамствы да іх рыхтуюцца. Міністэрства інфармацыі традыцыйна разумее, што яно адказнае, каб незалежныя крыніцы інфармацыі былі «на кручку», выносіць папярэджанні незалежным СМІ. Я не выключаю, што гэта такі кручок, на які нас падвесілі.

Дзеянне першага папярэджання яшчэ не скончылася. Яно было вынесена нам за адкрыты ліст Аляксандру Лукашэнку ад жонкі асуджанага былога галоўнага доктара касцюковіцкай бальніцы».

Нагадаем, што паводле законаў Беларусі, Міністэрства інфамармацыі можа ініцыяваць закрыццё СМІ, які атрымаў два папярэджанні цягам аднаго года. Таму, фактычна, «Народную волю» могуць закрыць у любы момант.

**Кірыла Хілько**

# Латушку можна, Лябедзьку нельга

У Беларусі людзей судзяць не толькі за салідарнасць з Украінай, але і з Францыяй. 11 студзеня чатыры чалавекі, сярод якіх быў і лідар АГП Анатоль Лябедзька, прыйшлі да французскага пасольства з плакатамі «Je suis Charlie», каб выказаць салідарнасць з загінулымі падчас нападу на рэдакцыю сатырычнай газеты «Шарлі Эбдо» журналістамі.

Акцыя прайшла без затрыманняў, аднак потым Лябедзька даведаўся ад праваахоўнікаў, што супраць удзельнікаў акцыі рыхтуюцца суды за ўдзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве. На аднаго з удзельнікаў пікета, Паўлюка Канавальчыка ўжо склалі адміністрацыйны пратакол.

Цікава, але ў гэты ж дзень у Парыжы прайшоў вялікі марш памяці загінулых ад рук радыкальных ісламістаў. Марш, які таксама праходзіў пад лозунгам: «Je suis Charlie», сабраў лідараў краін, дыпламатаў і высокіх чыноў. Беларусь на гэтым шэсці прадстаўляў пасол Павел Латушка. На Латушку пратаколаў не складалі.

Французскае пасольства ад якіх-небудзь каментароў на запыт «НН» адмовілася.

**КХ**




# Доктара Сірэнку, які здаў Някляева спецслужбам, зрабілі намеснікам Шапіры

Сярод новых кадравых прызначэнняў звяртае на сябе ўвагу асоба новага намесніка **старшыні Мінаблвыканкама**.

Доктар Віктар Сірэнка атрымаў сумную вядомасць у ноч з 19 на 20 снежня 2010 года. Ён, тагачасны кіраўнік бальніцы хуткай дапамогі, дазволіў спецслужбоўцам вывезці з бальніцы паўпрытомнага кандыдата ў прэзідэнты Уладзіміра Някляева.

Менавіта Сірэнка змяніў дыягназ Някляева. Спачатку паэту паставілі дыягназ «закрытая



чэрапна-мазгавая траўма лёгкай ступені, гематомы левай арбіты, удары мяккіх тканак». Праз пару гадзін, калі кандыдата ў прэзідэнты ўжо выкралі, Сірэнка выдаў даведку, у якой дыягназ «чэрапна-мазгавая траўма» не значыўся.

Праз некалькі месяцаў доктар пайшоў на павышэнне, яго прызначылі кіраўніком камітэта па ахове здароўя Мінгарвыканкама, а з цягам часу перавялі на аналагічную пасаду ў Мінаблвыканкам.

Цяпер ён стаў намеснікам старшыні Мінаблвыканкама Сямёна Шапіры.

Сірэнка ўключаны ў спіс неўязных у Еўрасаюз, аднаймення персанаж з'явіўся ў кнізе «Былы сын» Аляксандра Філіпенкі.

**Ягор Марціновіч**

# Міхалок пераязджае ва Украіну

Лідар гурту «Brutto» (былы «Ляпіс Трубяцкой») Сяргей Міхалок і яго прадзюсар Антон Азізбекян звярнуліся да віцэ-прэм'ера — міністра культуры Вячаслава Кірыленкі з просьбай дапамагчы ў атрыманні права на пастаяннае пражыванне ва Украіне. Пра гэта паведамілі агенцтву УНІАН у прэс-службе Міністэрства культуры.

Сяргей Міхалок патлумачыў, што падтрымка групай «Ляпіс Трубяцкой» рэвалюцыйных падзей ва Украіне негатыўна і варожа ўспрымаецца ўладамі Беларусі і Расіі, якія ствараюць перашкоды для паўнавартаснага творчага працэсу.

Таму Міхалок і яго прадзюсар, не адмаўляючыся ад беларускага грамадзянства, вырашылі атрымаць права на пастаяннае пражыванне ва Украіне. Наступны канцэрт Міхалок плануе даць у прыфрантавым Марыупалі.



**Міхалок падчас Майдану ў Кіеве.**

Вячаслаў Кірыленка звярнуўся з лістом да міністра ўнутраных спраў Украіны Арсена Авакава з просьбай як мага хутчэй даць дазвол на пастаяннае пражыванне ва Украіне Міхалку і Азізбекяну.

**Сргей Гезгала**

Пяць пытанняў і адказаў пра **новую эканамічную сітуацыю**.

# Ці дасягнулі рубель і даляр раўнавагі?

Афіцыйны курс даляра дасягнуў 15310 рублёў, курс у абменніках — 15610 рублёў. Нацбанк дэкларуе, што доўгачаканая стабілізацыя валютнага рынку наступіла. Але чаму тады людзі ўсё яшчэ стаяць каля абменнікаў і па-ранейшаму не могуць купіць валюту?

Новая эканамічная палітыка Нацбанка па-ранейшаму пакідае шэраг пытанняў.

### Да чаго цяпер прывязаны беларускі рубель?

Адмяняючы ў пачатку студзеня валютную камісію, Нацбанк удакладніў свае далейшыя дзеянні па стабілізацыі сітуацыі. Курс беларускага рубля вырашылі прывязаць да кошыка замежных валют у наступных долях: расійскі рубель — 40%, даляр і еўра — па 30%. Раней прапорцыя была іншай: у кожнай валюты па 33%.

Што змянілася? Цяпер біржа пачынаецца з таргоў расійскім рублём (раней базавым быў даляр). Курс расійскай валюты не зафіксаваны цвёрда, але пакуль яго імкнуцца трымаць на ўзроўні каля 228 беларускіх рублёў.

У залежнасці ад таго, які курс даляра склаўся ў Расіі, вылічваецца, колькі будзе каштаваць амерыканская валюта ў Беларусі. Напрыклад, калі ў Маскве даляр купляюць за 67 расійскіх рублёў, то курс Нацбанка складзе каля 15300 рублёў.

Фактычна адбываецца прывязванне беларускага рубля да расійскага, бо Расія — галоўны гандлёвы партнёр Беларусі. Іншае пытанне, па якім курсе адбудзецца прывязка валют пасля канчатковай стабілізацыі?

Цяпер абраны ўзровень 228 беларускіх рублёў, аднак экспарцёрам было б выгадна аднавіць статус-кво пачатку-сярэдзіны 2014 года. Тады расійскі рубель каштаваў 280—290 беларускіх рублёў, на 25% больш, чым цяпер.

### Ці таргі на біржы цалкам свабодныя?

Закулісныя гульні Нацбанка (калі яны нават і ёсць) рэдка выплываюць на паверхню. Пагаворваюць, што «лішнія» заяўкі на куплю валюты на біржы абразаюць. За руку нікога не злавілі, але лічбы сведчаць пра незвычайныя з'явы.

У апошнія дні студзеня дзённы аб'ём прапановы валюты на біржы выйшаў на ўзровень $90 мільёнаў. Пры цалкам рынкавай эканоміцы ён мусіць быць меншым, бо цяпер у Беларусі дзейнічае правіла абавязковага продажу паловы валютнай выручкі. «Прымусовы» продаж складае каля $70 мільёнаў, тады як вольны — усяго каля $20 мільёнаў.

Попыт у сярэднім складае каля $95 мільёнаў. Паколькі ён перавышае прапанову, беларускі рубель патроху слабее, а курсы валют растуць.

Аднак лічбы попыту і прапановы істотна памяншалі проці мінулага года. У студзені 2014-га аб'ём таргоў складаў у сярэднім $115 мільёнаў, а пазалетась — $120 мільёнаў. Але тады яшчэ і абавязковы продаж валюты быў меншым — 30% выручкі.

Такім чынам, колькасць тых, хто прадае валюту па біржавым курсе па ўласным жаданні, скарацілася. Пры гэтым Нацбанк адмаўляе банкам у куплі валюты для абменнікаў.

### Што будзе з заробкам?

Апошнія гады заробкі беларусаў змяняюцца па простым графіку. Эканоміка набірае абароты, заробкі падыходзяць да пэўнага ўзроўню... Пасля чаго адбываецца адкат на дватры гады таму і спроба чарговага ўздыму.

У 2008-м эканоміка не вытрымала $450, у 2011-м фатальна лічбай стала $500, цяпер — $600.

Паводле звестак Белстата, у канцы 2014 сярэдні заробак у краіне перавысіў 6,8 мільёна рублёў «бруднымі». За кошт прэмій снежаньскія заробкі заўсёды самыя высокія за год. Аднак, сплаціўшы падаткі, беларусы могуць набыць усяго $380 па цяперашнім курсе ў банках. Узровень дабрабыту фактычна адкаціўся на пяць гадоў назад.

Гаворкі пра індэксацыю заробкаў дзяржава пакуль не вядзе.

### Ці ўдалося ўладам стрымаць рост цэнаў?

Нягледзячы на спробы ўладаў замарозіць цэны, супраць законаў эканомікі не папрэш. Урад дазволіў імпарцёрам павялічыць адпускную цану на тавары ў новых пастаўках па схеме: «працэнт дэвальвацыі беларускага рубля мінус 5%». Гэта значыць, што ад пачатку валютнага крызісу цана магла вырасці не больш чым на 38,5% (40,5% дэвальвацыі x 95%).

Параўнаем, колькі каштавалі прадукты «да» і «пасля».

Найбуйнейшая гандлёвая сетка крамаў «Еўраопт», якая карыстаецца прыязным стаўленнем уладаў, імкнецца не змяняць цэны.

З аднаго боку, кілаграм бананаў у крамах цяпер каштуе 15850 рублёў (+30% у параўнанні са снежнем 2014), апельсіны — 12900 (+9%).

Затое многія тавары пакуль не змянілі цаны. Гарошак «Глобус», гарбата «Грынфілд», шакалад «Альпен Гольд» каштуюць як і раней, а вось нектары «Сочны» нават крыху патаннелі.

З тэхнікай сітуацыя іншая. Параўнаем каталог адной з найбуйнейшых беларускіх інтэрнэт-крамаў «21 стагоддзе».

Большасць тавараў падаражэла на максімальна дазволены ўзровень. Напрыклад, пральная машына LG F1096SD3 прадаецца за 5 425 тысяч (+38,8%).

Аднак ёсць і выключэнні. Тэлевізар Samsung UE32H5303AKXRU каштуе 6 836 тысяч (+45,8%), а мультыварка Redmond RMC-M4510 — 1 549 тысяч (ажно +49%).

А вось беларуская прадукцыя пакуль падаражэла не так моцна — усё ж не цалкам імпартны тавар. Напрыклад, пральная машына Атлант СМА 50У102 у параўнанні з ліпенем мінулага года вырасла ў цане на 19%.



Дэфіцыту ў крамах пакуль няма.

### Ці ёсць валюта ў абменніках?

Каб набыць пэўную суму ў далярах ці еўра, давядзецца пабегаць па абменніках. Але калі ёсць час і крыху ўдачы, то набыць некалькі тысяч цалкам магчыма.

У абед аўторка ў некаторых абменніках можна было адразу купіць па тысячы і даляраў, і еўра. Напрыклад, у непрыкметным акенцы банка «БелВЭБ» ля сталічнага ЦУМа можна было ўзяць нават і пайтары. У аддзяленні «Хоўм Крэдыт Банка» таксама праблем няма — сказалі, што прададуць любую патрэбную суму.

Але ў большасці банкаў можна набыць толькі тое, што наздавалі за дзень іншыя кліенты. Пры гэтым амаль паўсюль хоць трошкі валюты, але знойдзецца. І пытацца трэба ва ўсіх касах — у аддзяленні «БПС-Сбербанка» ў адным акенцы не было нічога, затое ў другім — $150. У «Беларускім народным банку» даляраў знайшлося няшмат, каля $30, але прапанавалі 300 еўра. Пры гэтым было бачна, што валюты ў касе хапае. «Гэта не для продажу, — папярэдзіла касірка. — Мы прадаём толькі тое, што здаюць».

Калі пашанцуе, то можна трапіць у банк якраз пасля такога заможнага кліента. Прыняўшы ад папярэдняй жанчыны салідны стос даляраў, касірка «Франсабанка» паведаміла наступнаму кліенту, што можна купіць пайтары тысячы даляраў.

Самымі «беднымі» аказаліся вялікія аддзяленні «Беларусбанка» і банка «ВТБ». Ні там, ні там валюты не было ўвогуле.

**Ягор Марціновіч, Уладзіслаў Швядовіч**

**Крэдытны рэйтынг Расіі — «смеццевы»**

Міжнароднае рэйтынгавае агенцтва Standard & Poors панізіла сувэрэнны крэдытны рэйтынг Расіі з узроўню BBB- да BB+, гэта значыць — ніжэй за інвестыцыйны ўзровень. Па сутнасці, міжнародным інвестарам параілі не звязвацца з Расіяй і не даваць грошы мясцовым кампаніям.

Буйныя фонды будуць выводзіць грошы з краіны. Летась адток капіталу з Расіі перавысіў $150 мільярдаў, і гэта быў антырэкорд. Цяпер ён можа быць пабіты.

# Няма памідора? Еш агурок!




«Па дарозе сюды я зайшоў у тры крамы, і ні ў адной з іх няма памідораў. Што робіцца для таго, каб вырашыць праблему з дэфіцытам некаторых тавараў?» — запыталіся на прэс-канферэнцыі ў намесніцы міністра гандлю.

«З'ешці агурок, — абрэзала Ірына Наркевіч. — Мінск настолькі развіты транспартна, (...) што купі талончык, які каштуе нязначна, перамясціся ў іншую частку горада ў краму і купі гэты памідор, якога не хапае».

У Мінску, сапраўды, назіраюцца перабоі з некаторымі імпартнымі прадуктамі і таварамі.

# Самыя танныя кватэры ў Мінску — па $45 тысяч

Традыцыйна на памяншэнне пакупніцкага попыту першымі рэагуюць зніжэннем цаны хрушчоўкі. Цана квадратнага метра ў старых кватэрах застаецца, па сутнасці, немаленькай, але за кошт невялікага метражу агульная цана кватэры выходзіць самай невысокай на рынку.

Яшчэ ў снежні і першых датах студзеня цэны на хрушчоўкі пачыналіся з $47 тысяч. Зараз жа ў дыяпазоне $45—47 тысяч прадаюцца больш за два дзясяткі кватэр.

У большасці сваёй гэта даволі ціплае жыллё: або маленькае, або без балкона, або на першым паверсе. Але ёсць апартаменты, гаспадарам якіх ёсць што паказаць у рэкламе: напрыклад, «цэнтр горада» (гаворка пра вуліцу Грыбаедава) або «развітая інфраструктура» (а яна сапраўды ў старых раёнах развітая).

**Realt.tut.by**

# Па дарозе з раю ў рай

**Улад Швядовіч** пабываў у першым у Беларусі прыватным доме састарэлых.

Старэць увогуле цяжка. Старэць у адзіноце — амаль невыносна. Таму і бягуць людзі, хто куды можа. Хтосьці да сваякоў, а хтосьці — у Вайганы, у першы ў Беларусі прыватны дом састарэлых. Для кагосьці гэта проста месца, дзе ёсць каму цябе даглядаць, для кагосьці — месца, дзе ёсць з кім пагаварыць, а для кагосьці — апошні шанец на нармальнае жыццё.

Вайганаўскі дом-інтэрнат «Сямейны прычал» працуе са жніўня 2013 года. Знаходзіцца ён у будынку былой вясковай школы, трошкі наводшыбе. Побач — лес, палі. Цішыня.

«Прычал» разлічаны на 45 чалавек, але сёння там жывуць толькі 26. З іх 5 калясачнікаў, але хапае і тых, хто ўжо ў сілу ўзросту рухаецца з цяжкасцю ці ўвогуле ляжыць. Палова з жыхароў — 12 чалавек — «сацыяльныя», то бок людзі, якіх няма каму даглядаць.

Пражыванне тут каштуе 6 мільёнаў. Часцей за ўсё дзеці атрымліваюць бацькоўскую пенсію і дакладаюць свае грошы. «Сацыяльныя» аддаюць 90% пенсіі, рэшту атрымліваюць на рукі.

«Пакуль мы шмат людзей не бяром — ім і самім трэба адаптавацца, і санітаркам да новых жыхароў трэба прывыкнуць. Калі мы толькі адкрыліся, то завезлі пяцярых — і амаль паўтара месяца нікога больш не бралі. Прывыкалі адзін да аднаго і да працы. Дый працаваць санітаркай не кожны зможа: праца цяжкая і, шчыра кажучы, брудная. Шмат іх ужо памянялі», — распавядае Алена Валянцінаўна Дубовік, дырэктарка дома-інтэрната.

Сама Алена Валянцінаўна родам з Вайганаў, тут вырасла, нават наведвала тую самую школу, якую ў будучыні ператворыць у прытулак для старых.

Ідэя адкрыць дом-інтэрнат нарадзілася ў Дубовік пасля працы старшынёй Чырвонага Крыжа ў Маладзечне. Там яна нагледзелася на самотных людзей. Тым больш у яе самой маці перад смерцю хварэла на анкалогію, Алена Валянцінаўна хадзіла за ёй два гады. Карацей, досвед у яе быў.

Быў і вопыт кіраўніцтва — пасля разводу з першым мужам Дубовік вымушана была зарабляць грошы сама і адкрыла ўласную СТА. Таму калі яна даведалася, што ў яе родных Вайганах зачыняецца школа, то зразумела — калі адкрываць той дом-інтэрнат, то тут і зараз.

«Калі адкрываліся, само сабой, прайшлі ўсе праверкі. Санстанцыя, пажарнікі, экалогія, нават трэ' было ўзгадніць меню. Было няпроста. Але палкі ў колы ніхто не ўстаўляў, — кажа Алена Валянцінаўна. — Тыя ж правяраючыя самі падказвалі, што і як лепш выправіць, каб не было праблем у будучыні».

Дубовік узяла будынак у арэнду — плануе яго потым выкупіць. Зрабіла рамонт, набыла патрэбную мэблю і абсталяванне, падабрала персанал. Адкрылася.

І высветлілася, што без «кліентаў» яна не застанецца, бо, як кажа сама Дубовік, людзі баяцца ісці ў дзяржаўныя ўстановы — лічаць, што прыватныя лепш кантралююцца. Хаця, прызнаецца сама дырэктарка, часта дзяржустановы маюць і большае фінансаванне, і лепшае медыцынскае абсталяванне.

Дарэчы, і сама яна, і яе «пастаяльцы» называюць гэтае месца пансіянатам. «Інтэрнат» ці «дом састарэлых» гучыць надта казённа.

Сам па сабе пансіянат невялікі. У двухпавярховым будынку 9 спальняў, у асноўным на чатыры асобы, але жывуць у іх і па двое, і па трое.

Пакоі прасторныя, па трыццаць метраў, акуратныя, але без празмернасцяў. Чатыры ложкі, некалькі тумбаў, тэлевізар на стале — і ўсё, ну хіба яшчэ кветкі на падаконніках.

Некаторыя аздабляюць сцены над ложкамі фотаздымкамі ці проста прыгожымі малюнкамі. У адной з жанчын ля ложка стаіць вялікі чорна-белы здымак. На ім — прыгожая маладая дзяўчына. Але гэта не дачка ці ўнучка, а сама яна ў маладосці. Былая прыгажуня і паспяховая дырэктарка буйнога прадпрыемства, цяпер яна ляжыць на тыповым ложку тварам да сцяны.

Да таго ж, у кожным пакоі на сцяне ікона. Іх тут увогуле шмат — вісяць і ў калідорах, і нават проста ля некаторых дзвярэй на вуліцу. А ў пакоі для адпачынку зроблена нешта накшталт невялікай каплічкі — на адной са сцен вісяць іконы і праваслаўныя, і каталіцкія, на стале стаіць распяцце. Сюды прыходзяць пабыць сам-насам з Богам ці з сабой. Старыя людзі заўсёды рэлігійныя. Кожны тыдзень пансіянат наведваюць святары: то праваслаўны, то каталіцкі.

Асабліва ганарыцца Дубовік «пакоем для рэлаксацыі» — гэта вялікі пакой у старым вясковым будынку побач са школай. Старая мэбля, ложкі, вялікая драўляная шафа. У куце стаіць калаўрот, на канапе ляжыць дамацканае льняное радно. Ёсць нават старыя прасы, які калісьці працавалі на вугаллі. Абстаноўка нагадвае музей, кажа Дубовік, людзям падабаецца. Летам старыя нярэдка збіраюцца тут.

Як і амаль усё астатняе, пакой абсталявалі ўласнымі сіламі. Тут увогуле прывыклі жыць самастойна.

Доктарка нават сама варыць мазь супраць пролежняў. Кажуць, што гэтая мазь дапамагае лепш за дарагія замежныя.

Супрацоўнікі самі вырошчваюць на былым школьным падворку гародніну: бульбу, моркву, буракі — шмат усяго, самі нарыхтоўваюць дровы. У мінулым годзе разбілі яблыневы сад.

Усе жыхары пансіяната сваім новым домам задаволеныя. Асабліва тыя, каму ісці больш не было куды. «Сацыяльныя» ўвогуле кажуць: «Мы тут жывём як у раі». Сапраўды, ранейшае жыццё некаторых з іх больш нагадвала пекла.

«Валерыя Валянцінавіча мы забралі нядаўна, з тыдзень таму. Хоць я і казала, што больш не буду прымаць «сацыяльных», але тут ужо не вытрывала, — кажа Алена Дубовік. — Пра яго знаёмыя папрасілі. Ён жыў на хутары з братам. Брат памёр, Валерый застаўся адзін. А ў яго ногі не дзейнічаюць. Я калі заехала, убачыла, як ён па хаце поўзае, есці амаль няма чаго...»

Пра стан 65-гадовага інваліда нават сацслужбы не ведалі. Сам Валерый Валянцінавіч толькі пасміхаецца і паціскае плячыма: «Мы да іх і не звярталіся ніколі. Пакуль брат быў — дапамагалі адзін аднаму». Цяпер ён сядзіць у інвалідным вазку перад тэлевізарам. Да праблем з нагамі дадаецца яшчэ адна: на яго левай руцэ застаўся толькі адзін палец. Хваліцца: «Я тут упершыню ў жыцці пакаштаваў бутэрброд з ікрой!»

Але тым, хто жыў багацей, канечне, хату замяніць цяжка.

«Першы час няпроста было прывыкнуць. Цяпер нармальна. Але часам узгадаеш — і дамоў цягне. Дом ёсць дом», — кажа 85-гадовая Лідзія Іванаўна.

Яна тут па ўласным жаданні — паўтара года таму дачка з мужам з'ехалі ў Германію. Старая ж ехаць з імі адмовілася.

«Мне лепш у родным краі. Дый што там рабіць? Старому нічога асабліва не цікава. Пражыў дзень — і дзякуй богу, — кажа яна. — З аднаго боку, крыўдна, канечне, што я тут. Дома лепш. А з іншага — добра, што ёсць такое месца. Бо куды б я падзелася?»

На жаль з самым малодшым жыхаром пансіяната, 36-гадовым Кірылам, пагутарыць не атрымалася. Ён засаромеўся таго, што жыве са старымі, і збег ад журналістаў у качагарку. Хаця саромецца няма чаго — ён тут таксама не ад салодкага жыцця.

«У яго ДЦП, 3-я група інваліднасці, — распавяла Дубовік. — Вырас у дзіцячым доме, жылля няма. Пенсія меншая за мільён. Працы няма — у дзяржустановы, дзе працуюць інваліды, бяруць толькі з 2-й групай. Таму ўзялі яго пакуль мы».

Ёсць у пансіянаце і свае легенды. Адна з бабуляў — Марыя Іванаўна — была вучаніцай блажэннай Валянціны Мінскай. У пансіянаце лічаць, што яна мае пэўныя звышздольнасці, сама Дубовік называе яе «празарлівай». Да старой звяртаюцца нават вясковыя жыхары, часам яе просяць памаліцца за кагосьці ці прынесці да яе дзіця, каб яна прачытала над ім малітву. У яе здольнасці вераць нават доктарка, адукаваная былая камуністка — кажа, бабуля падобная да Вангі.

Увогуле, «Сямейны прычал» нагадвае звычайны інтэрнат, толькі надзвычай ціхі, чысты, і замест студэнтаў — старыя. Але, калі ўваходзіш у будынак з вуліцы, у нос адразу б'е тонкі, амаль непрыкметны, пах — так пахне старасць.

З гэтага раю яго жыхарам шлях толькі адзін — у рай сапраўдны.

І дай божа ім не спяшацца.

«Прывыкаеш да кожнага з іх, — кажа Аркадзь, памочнік дырэктаркі. — Яны ж як дзеці — у кожнага свой лёс, свой характар».

На вачах у дарослага моцнага мужчыны нечакана з'яўляюцца слёзы. Але гэта ад ветру, канечне. Канечне, ад яго.



«У пансіянаце просценька, але чыста».

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Заснавальніца дома-інтэрната Алена Дубовік (справа) і доктарка Людміла Уладзіміраўна

У краіне працуе 79 дамоў для састарэлых і інвалідаў, у тым ліку: псіханеўралагічных — 46, агульнага тыпу — 23. Усяго ў дамах-інтэрнатах агульнага тыпу на канец 2013 года пражывала 4470 чалавек, з іх на платнай аснове — 430 пастаяльцаў, ва ўстановах псіханеўралагічнага профілю жыло 11 770 чалавек.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Дом-інтэрнат «Сямейны прычал» знаходзіцца ў вёсцы Вайганы Валожынскага раёна Мінскай вобласці. На вялікім падворку былой школы ўлетку вырошчваюць гародніну.

# Забойцы 18-гадовай Юліі Саламацінай зварылі сваю ахвяру

Так скончылася знаёмства праз «Укантакце».

Агулам за той дзень, 17 ліпеня, 25-гадовы Павел Цыняўскі выпіў каля літра гарэлкі. Праз «Укантакце» было дамоўлена пра сустрэчу з Юліяй у метро. Але сам ён ужо ісці не мог, прыяцель правёў яго туды. І завёў назад, калі аказалася, што Юля не прыехала. Сябар сышоў, Павел лёг спаць. Пабудзіў яго званок. Юля ўсё-такі прыехала. Уначы.

### Першае спатканне. І апошняе

У судзе Павел даваць паказанні не наважыўся. «Я б не хацеў нічога гаварыць», — прашаптаў ён.

Тады пракурор зачытаў ягоныя паказанні, дадзеныя на следстве. На першым допыце яны былі такія.

«Яна наступіла на ката. Я неадэкватна адрэагаваў — піхнуў, пасля чаго яна ўдарылася скроняю аб стол. Пачала курчыцца ў канвульсіях», — зачытваў пракурор.

Праз пару дзён Павел вырашыў «адкрыць душу», яму гэта параіў сукамернік. Ён памяняў версію з няшчаснага выпадку на забойства.

Вось пазнейшыя паказанні.

«Юлю запрасіў з мэтай уступіць у палавую сувязь. Мы сядзелі [з ёй] у маім пакоі і выпівалі. Амаль у непрытомным стане я прапанаваў у грубай форме зрабіць мне мінет. Пасля адмовы я паласнуў яе па ўнутраным баку кісці. Пайшла кроў. Мы прайшлі на кухню, дзе з халадзільніка ўзялі бінт, і пераматалі руку. Праз некаторы час зноў адбыўся канфлікт. Прычыну не помню праз моцнае алкагольнае ап'яненне. Наступны момант, які помню, — як душыў яе рэменем».

Са словаў Паўла, далей ён заснуў.

### Замесці сляды

А калі прачнуўся, патэлефанаваў маці. 49-гадовая Галіна Цыняўская адпачывала ў блізкіх у Бягомлі. Павел папрасіў яе тэрмінова прыехаць. Для чаго — па тэлефоне не сказаў. «Мне страшна было, што мне давядзецца несці адказнасць за зробленае».



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Павел не паказвае эмоцый.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Галіна ўвесь час сядзіць з апушчанымі вачымі.

Маці прапанавала выклікаць міліцыю. Не! — прасіў сын. І схапіўся за нож, каб ускрыць сабе вены. Тады маці саступіла. Павел прасіў яе дапамагчы расчляніць цела, спаліць і закапаць. Узяў пілу-«балгарку» і проста ў пакоі ўзяўся за рэалізацыю. Галіна на кухні варыла ўнутраныя органы. Пасля прапускала праз мясарубку і змывала ва ўнітаз. Астатнія парэшткі вынеслі ў хмызнякі на скрыжаванні вуліц Прытыцкага і Еўфрасінні Полацкай — сярод мікрараёнаў! — каля царквы.

### Палілі доўга

«Я адразу пачаў збіраць сухое галлё. Дроў было дастаткова ў гэтай лесапаласе. Палілі доўга — пачало ўжо віднець... Засталіся косткі. Я паспрабаваў іх пасекчы, каб па іх нельга было вызначыць асобу...» Што засталося — закапалі.

Дома сын з маці ўзяліся адмываць кватэру. Кроў была на падлозе, на сценах, нават на столі. Пазрывалі шпалеры. Дыван парэзалі на кавалкі і выкінулі. Павел нават пайшоў да электрыка па ўльтрафіялетавую лямпу: у яе святле ў кіно знаходзяць нябачныя плямы крыві.

На паклейку шпалераў знайшлі рабочых. Двойчы дамаўляліся, але пераносілі працу.

А пасля зразумелі, што ўсё марна. Бо пазваніла Людміла Саламаціна, мама Юлі. Яна шукала дачку. Павел адказаў: не сустрэліся, не прыехала, не бачыў. І запанікаваў.

На рынку ў Ждановічах Павел купіў намёт, спальнік, прадукты і з маці з'ехаў на электрычцы ў бок Маладзечна. Некалькі дзён жылі ў лесе. Хлопец раструшчыў свой і матчын мабільнікі, каб іх не засяклі. Выкінуў два вінчэстары ад камп'ютара. Пазней высветлілася, што Паўлавы сяброўкі часам запісвалі на вэбкамеру інтымныя відэа з ім. І толькі ў лесе ён расказаў маці сапраўдную гісторыю забойства. Было невыносна, прызнаваўся: «Заплюшчваў вочы — і бачыў крывавую карціну». Сказаў, што трэба здавацца міліцыі. Але перад гэтым захацеў з'ездзіць да бабулі, развітацца.

Даехалі яны да Бягомля. Адправілі цётку да ўчастковага...

Маці спачатку Павел хацеў выгарадзіць, але ж факты...

### Абое прызналі

Галіну Цыняўскую вінавацяць ва ўкрывальніцтве забойцы і пашкоджанні афіцыйных дакументаў — пашпарта Юліі. За кожнае злачынства максімальнае пакаранне — да двух гадоў калоніі. За здзекі з трупа судзіць не будуць, такой адказнасці ў Крымінальным кодэксе не прадугледжана.

Яе сын будзе адказваць за забойства. Ён можа адправіцца за краты на 15 гадоў.

Павел нідзе не працаваў афіцыйна — падпрацоўваў тамадой на вяселлях. Вучыўся на гістфаку БДУ, але кінуў. Паспеў ажаніцца і развесціся.

Яго маці працавала прыбіральшчыцай у інтэрнаце будаўнікоў. Па льготным крэдыце пабудавала кватэру за пару соцень метраў ад будынка суда, дзе цяпер праходзіць працэс.

Абое прызналі сваю віну.

**Сяргей Макарэвіч**

### Вышук





**Зніклі карэйцы**

Грамадзяне КНДР (Паўночная Карэя) жылі ў прыватным доме па вуліцы Балотнай у Мінску. Працавалі будаўнікамі. 11 студзеня каля 19 гадзін Кім Чан Су, Лі Ту Хен, Хван Ро Хо пайшлі з дому і не вярнуліся. На выгляд ім 50–55 гадоў, рост 165–170 см, вочы карыя, валасы чорныя. Хто ведае месцазнаходжанне карэйцаў, звяртайцеся на (017) 230-83-20.

## Беларус загінуў у ЗША ў спрэчцы за Украіну

Алег Таламай памёр 9 студзеня ў Апала-Альта ад чэрапна-мазгавой траўмы.

Паплаціўся жыццём праз спрэчку з нагоды расейска-ўкраінскага канфлікту.

Алег Таламай нарадзіўся ў Беларусі ў 1990-м. З сямі гадоў ён браў удзел у адукацыйных праграмах у ЗША. Марыў стаць прафесійным гульцом у тэніс. У 2012 у чарговы раз прыехаў у ЗША, каб здзейсніць сваю мару. Неўзабаве стаў інструктарам у Акадэміі тэніса ў Апала-Альта.

Паводле рапарта паліцыі, ноччу 21 снежня 2014 у бары The Patio, у цэнтры горада, Алег і яго сябар пасварыліся з кампаніяй з чатырох мясцовых жыхароў. У спрэчку ўмяшалася служба бяспекі і паліцыя. Аднак праз некаторы час мужчыны сутыкнуліся на вуліцы, завязалася бойка. 28-гадовы Ніл Браян Ротраф ударыў беларуса ў твар і паваліў яго на зямлю. У выніку Алег атрымаў перралом костак чэрапа. Прабыўшы 19 дзён у коме, ён памёр, так і не ачуняўшы.

Па словах дэтэктываў, якія расследуюць справу, адразу пасля бойкі двое падазраваных спрабавалі збегчы, пакінуўшы цела пацярпелага на тратуары. Іх дзеянні былі запісаныя на камеру відэаназірання, усталяваную ў прыпаркаванай побач паліцэйскай машыне. Пасля смерці Алега мясцовыя праваахоўнікі абвінавацілі ў ненаўмысным забойстве і саўдзеле ў цяжкім злачынстве Ротрафа і яго 21-гадовага прыяцеля Акшая Мастакара.

Супрацоўнікі Акадэміі тэніса распачалі збор сродкаў на транспарціроўку цела загінулага ў Беларусь, «каб яго маглі пахаваць побач з бацькам».

Алег Таламай займаўся тэнісам на радзіме, гуляючы ва ўніверсітэцкай зборнай, быў памочнікам трэнера каманды Кубка Дэвіса ў Беларусі. У Акадэміі Апала-Альта ён стаў адным з самых запатрабаваных трэнераў.

**Інф. Mercury News**

### Сціслa

**У Мінску абрабавалі ювелірную краму**

20 студзеня каля 17 гадзін прадавец салона Ziko заўважыў, як адзін з наведвальнікаў спрабуе выкрасці ювелірныя вырабы. Паспрабаваў перашкодзіць гэтаму. У выніку бойкі прадавец атрымаў нажавое раненне, нападнік збег. Следчыя шукаюць маладога чалавека прыкладна 25–30 гадоў, рост 170–175 см. Ён быў апрануты ў чорныя шапку і куртку, светла-сінія джынсы, красоўкі са светлай падэшвай, меў цёмны заплечнік. Кампанія Ziko абяцае 30 мільёнаў рублёў за інфармацыю пра нападніка.

**Загарэлася труна з нябожчыкам**

Здарэнне адбылося ў Гродне. Пажар здарыўся ў кватэры на 6-м паверсе дзевяціпавярховіка. Сваякі нябожчыка, 60-гадовая гаспадыня кватэры і яе састарэлая маці, запалілі перад труной свечку і сышлі на кухню. Адчуўшы пах дыму, жанчыны змаглі самастойна пакінуць кватэру, а суседзі патэлефанавалі пажарным. Агонь пашкодзіў пакой і нябожчыка.

**У фальшываманетчыка канфіскавалі $50 тысяч**

Як паведамілі ў Следчым камітэце, фальшываманетчыка злавілі ў Віцебску. Хлопчыкам 8 і 14 гадоў ён даў 300 падробленых даляраў, каб тыя памянялі іх у банку. А там дзяцей затрымалі. Яны і расказалі пра знаёмага дзядзьку. Па розных адрасах аператыўнікі канфіскавалі падробленых 477 купюр па $100. 36-гадовы фальшываманетчык раней быў судзімы за гандаль людзьмі і збыт наркотыкаў.

**Воўк пакусаў трох вяскоўцаў**

Драпежнік з'явіўся ў вёсцы Мядзведзь Светлагорскага раёна позна ўвечары. У адным з двароў ён напаў на сабаку. Пасля гэтага звер кінуўся ў другі двор, дзе пакусаў вяскоўца, які выйшаў на шум. Затым пакусаў яшчэ двух чалавек. Вяскоўцы здолелі забіць драпежніка. Аказалася, воўк хварэў на шаленства.

**КМ**

# Беларускі бярозавік у ЗША называюць хітом сезона і прадаюць за $42

Замежная прэса прадракае сапраўднае «шаленства» вакол бярозавіку, які «**лечыць многія захворванні**, галаўныя болі і нават пазбаўляе ад цэлюліту».

Замежныя гурманы на хвалі прагі да новых прадуктаў адкрываюць новыя смакі. У заходніх краінах яшчэ да нядаўняга часу была папулярная какосавая вада, пра яе перавагі і карысныя якасці не стамляліся расказваць кіназоркі і мадэлі. Але нават і на яе мода праходзіць — прынамсі, гэтак сцвярджаюць журналісты, якія пішуць пра здаровы лад жыцця.

Брытанскі штодзённік Daily Mail раіць і ўвогуле забыць пра какосавую ваду, бо «ў 2015-м усе будуць шалець па бярозавіку, які лечыць захворванні вантробаў, грып, галаўныя болі і нават пазбаўляе ад цэлюліту».



У выданні Huffington Post бярозавы сок назвалі ключом да вырашэння «праблем са здароўем і прыгажосцю» і новым напоем года.

Днямі ў лонданскай газеце London Evening Standard з'явіўся яшчэ адзін артыкул пра бярозавы сок. У артыкуле пішуць, што бярозавы сок заваёўвае паліцы Вялікабрытаніі, а брэнд Byarozavik з Беларусі, які прадаецца на Amazon.com, называюць і ўвогуле адным з «найбуйнейшых брэндаў у ЗША» ў сваім сегменце.

«Унікальны дар беларускай прыроды» — гэтак яго рэкламуюць вытворцы. «Бярозавік» робяць на Мінскім заводзе безалкагольных напояў.

Кіраўнік аддзела знешнеэканамічнай дзейнасці Міхаіл Сінічэнкаў распавёў, што цяпер на беларускі бярозавы сок найбольшы попыт — з боку ЗША і Аўстрыі. На найбуйнейшай амерыканскай інтэрнэт-пляцоўцы Amazon.com беларускі сок з'явіўся яшчэ два гады таму: «У нас былі кантакты з амерыканскай кампаніяй па іншых пытаннях. І ў працэсе ўзаемадзеяння з'явілася цікавасць да нашай прадукцыі. То бок ідуць закупы на амерыканскую кампанію, якая далей гэтым займаецца».

**Радыё «Свабода»**




Украінка Дыяна Гаркуша атрымала тытул віцэ-міс Сусвету.

**Фотафакт**

### Міс сусвет — калумбійка

Пераможцай конкурсу «Міс Сусвет — 2014» стала жыхарка Калумбіі Паўліна Вега. Акрамя калумбійкі, у пяцёрку фіналістак увайшлі прадстаўніцы ЗША, Нідэрландаў, Украіны і Ямайкі. Усяго ў конкурсе ўзялі ўдзел 87 дзяўчат. Спаборніцтва праходзіла ў Маямі.



# Фанаты «Дынама» выступілі супраць маркетолага-гея

**Клуб адмовіўся** ўзяць яго на працу.

21 студзеня на спартыўных сайтах прайшла навіна, што аддзел маркетынгу мінскага «Дынама» ўзначаліў радыёвядучы і шоўмэн Валянцін Серада. Навіна як навіна, нічога асаблівага ў ёй не бачылася. Мінскае «Дынама» заўсёды славілася сваімі неардынарнымі кадравымі рашэннямі.

Аднак увечары фанаты мінскага «Дынама» выступілі з нечаканай заявай. Калі коратка пераказаць змест, то заўзятары выступалі супраць таго, каб у іх клубе працаваў гомасэксуаліст.

«Так выхаваў нас футбол, каляфутбол, незлічоныя кіламетры дарог за клуб, братэрства і ўзаемадапамога, нашы ідэі і прыярытэты, погляд на свет і яго ўладкаванне — МЫ не прымаем любога гатунку і пад любым «соусам» під..ў!!! Магчыма, гэтае слова камусьці рэжа слых і не дапушчальна ў афіцыйных заявах! Аднак мы прывыклі называць усё сваімі імёнамі!



Мы спадзяваемся на разважлівых кіраўнікоў ФК «Дынама»! Кіраўнікоў, не здольных ісці на кампрамісы са сваім сумленнем! Кіраўнікоў з традыцыйнымі жыццёвымі пазіцыямі! Разлічваем на Вашу адзіную правільную рэакцыю! Мы патрабуем неадкладнага адхілення В.Серады».

Як аказалася пазней, абурэнне фанатаў выклікалі старонкі ў сацыяльных сетках Валянціна Серады. У іх журналіст адкрыта прызнаваўся ў сваёй сэксуальнай арыентацыі. Сярод усяго іншага ён пісаў, што хоча пайсці «на спатканне з мужчынам 18—28 гадоў».

Паднялася першая хваля абурэння на форуме фанатаў «Дынама» — «Дзявятцы». Праз нейкі час там адпісаўся чалавек пад нікам «Валянцін Серада»: «Я прыйшоў у «Дынама» не асабістае жыццё ўладкоўваць (паверце, з гэтым і так усё the best), а працаваць. Старонкі свае ўжо выдаляю. Нікога не агітую. Але пры гэтым хачу заўважыць, што падобная нецярпімасць для мяне выглядае жахліва. Ва ўсім цывілізаваным свеце да падобных рэчаў ставяцца нармальна. Не будзьце дзікунамі. Дарэчы, лінейка прадукцыі, якая прысвечаная талерантнасці ў дачыненні да самых розных людзей, з сімволікай «Дынама» таксама будзе».

Кіраўніцтва мінскага «Дынама» адрэагавала на гэта вельмі хутка. Ужо раніцай 21 студзеня была зробленая заява, што клуб спыняе перамовы аб прыняцці Валянціна Серады на працу. Прычына — «сваімі непрафесійнымі дзеяннямі нанёс істотную шкоду іміджу і рэпутацыі клуба».

**Зміцер Панкавец**

**Меркаванне**



# Легкадумнасць экзарха Паўла

Піша **Анатоль Сідарэвіч**.

І хто яго тузаў за язык? Я маю на ўвазе заяву экзарха Паўла пра большую самастойнасць Праваслаўнай Царквы ў Беларусі.

Што гэта было? Экспромт? Імправізацыя? Раптам стрэліла-выбухнула ў галаве такая думка? Не раўнуючы, як думка пра «чарнобыльскі кранік»?

Салідныя палітыкі (а епіскап — тым больш мітрапаліт, экзарх — змушаны быць палітыкам) без папярэдніх кансультацый, зандажу заявы такога кшталту не робяць.

Тут належала перш выведаць пазіцыі і свецкай улады Беларусі, і настаяцеля Данілавага манастыра ў Маскве, і крамлёўскага пастаяльца, ад якога ў немалой ступені залежыць настаяцель. І вывучыць, нарэшце, думку епіскапату, манаства ды белага духавенства Беларусі.

Пасля заявы экзарха Паўла адзін рамантык захоплена казаў мне: якія дружныя былі воплескі святароў, калі экзарх прамовіў тыя словы!

Ведаю я дружныя апладысменты, якія пераходзяць у доўганезмаўкальную авацыю. Праходзілі мы гэта за часамі КПСС. Таму я і не падзяляю аптымізму свайго суразмоўцы.

І што? На гэтым тыдні — праз месяц пасля гучнай заявы — з тых самых вуснаў мы пачулі, што пытанне аб самакіраванасці Праваслаўнай Царквы ў Беларусі здымаецца з парадку дня. І зноў экзарх Павел прадэманстраваў легкадумнасць. Не ён першы паставіў гэтае пытанне і не яму здымаць пытанне з парадку дня.

Уладыку Паўлу перш чым казаць такое, належала б пракансультавацца са знаўцамі прадмету, калі першы раз у найноўшай гісторыі праваслаўныя хрысціяне Беларусі

## Хто, акрамя Бога, ведае, што будзе з намі праз год, а тым больш — праз 50 гадоў?



заявілі аб сваім жаданні бачыць сваю Царкву ці то аўтаномнаю, ці то аўтакефальнаю. І належала б мітрапаліту ведаць: раз важнае (у нечым нават экзістэнцыйнае) пытанне сфармулявана і пастаўлена ў парадак дня, ніякі экзарх, патрыярх ці прэзідэнт не мае сілы «закрыць» яго, зняць з парадку дня. Гэтае пытанне будзе актуальным аж да моманту яго вырашэння.

Яшчэ больш здзівіў мяне экзарх Павел сваёй заявай, што пытанне аб самакіраванасці Праваслаўнай Царквы ў Беларусі здымаецца на бліжэйшыя 25–50 гадоў. Што ва ўладыкі Паўла з багаслоўскай падрыхтоўкай? Хто, акрамя Бога ці Божых прарокаў, можа ведаць, што будзе з намі, з нашай краінай, з Царквою праз месяц, год ці два? Нейк не верыцца, што экзарх Павел — прарок.

Не таямніца, што апорай Маскоўскай Патрыярхіі з'яўляюцца цяперашнія палітычныя рэжымы Расіі і Беларусі, якія фаварызуюць яе і пераследуюць альтэрнатыўныя праваслаўныя цэрквы, не даюць ім разгарнуць свае структуры.

Няўжо экзарх Павел упэўнены, што цяперашнія палітычныя рэжымы Расіі ды Беларусі, што цяперашні статус Маскоўскай Патрыярхіі застанецца нязменным працяглы час?

Мне помніцца з гісторыі, як адзін самаўпэўнены палітык абяцаў пабудаваць тысячагадовы райх, а адна самаўпэўненая партыя абяцала, што ў 1980 годзе ў Савецкім Саюзе будзе створана матэрыяльная база камунізму. Дзе той райх? Дзе той камунізм («шчасце на вякі»)? Дзе той Савецкі Саюз? І дзе тая партыя?

Зрабіўшы заяву пра 25–50 гадоў нязменнага статусу Беларускага Экзархату, уладыка Павел яшчэ раз прадэманстраваў сваю легкадумнасць.

Чаму беларусы **пераходзяць у іслам**?

# Як беларускі баец Эдуард стаў Расулам

Эдуард (Расул — імя ў ісламе) Муравіцкі — адзін з найлепшых беларускіх байцоў у змешаных адзінаборствах, неаднаразовы прызёр чэмпіянатаў свету і Еўропы па баявым самба, заслужаны майстар спорту міжнароднага класа.

Эдзік выступае за зборную Беларусі ў некалькіх байцоўскіх відах спорту, а ў прафесійных баях ММА мае статыстыку 7 перамог — 2 паразы. Два гады таму хлопец выразшыў прыняць не зусім традыцыйную для нашай краіны рэлігію — іслам. Аб тым, што падштурхнула яго да веры ў Алаха, Эдуард расказаў «НН».

**«Наша Ніва»: Хто ты такі? Раскажы трошку пра сябе?**

**Расул Муравіцкі:** Мне 23 гады, я беларус — нарадзіўся і вырас у Баранавічах. З 9 гадоў пачаў займацца барацьбою, потым неяк захапіўся, вырашыў звязаць свой лёс са спортам. Атрымаў «майстра» па адным відзе, па другім, пачаў прафесійна выступаць. Потым было войска — спецназ, застаўся на кантракт. Але са службаю ў мяне не склалася, таму вярнуўся ў прафесійны спорт, ажаніўся. Ужо паспеў багата дзе выступіць і перамагчы. З самага яркага — гэта баі, што арганізоўваліся для высокіх людзей Расіі. Тады за намі назіралі і прэзідэнт Пуцін, і Мядзведзеў.

**«НН»: Якую рэлігію вызнаюць твае бацькі?**

**РМ:** Я нарадзіўся ў праваслаўнай сям'і, як праваслаўнага мяне і ахрысцілі. Потым бабуля пачала браць з сабою ў царкву, навучыла маліцца. Але я не разумеў: чаму, прыходзячы ў божы храм да Бога, я бачу дзясяткі вачэй нейкіх людзей з абразоў, якія лічацца святымі? Мы ж не жылі ў той час і не ведаем, ці праўда той чалавек быў святы, ці не забіў ён каго, ці не скраў. Ды і кожны мастак бачыць па-свойму — вы прайдзіцеся па цэрквах і паглядзіце на адных і тых жа святых, — убачыце розных людзей. Мяне гэта засмучала, і з цягам часу я адышоў менавіта ад рэлігіі, хоць верыць не пераставаў.

**«НН»: І як прыйшоў да ісламу?**

**РМ:** Паехаў зарабляць у Маскву — біўся за грошы ў спартовым клубе «Алігатар». Усё было файна: жытло бясплатнае, харчаванне таксама, а за перамогу ад 400 баксаў плацілі. З нас, байцоў, большасць былі выхадцамі з паўднёвых рэспублік Расіі, мусульмане па веры. Вельмі ўражвала іх еднасць, узаемапомач, гатоўнасць усім калектывам прыйсці на дапамогу адзін аднаму — сярод славянскіх спартоўцаў такога яднання я ніколі не бачыў. І мне стала цікава назіраць за мусульманамі: як яны робяць намаз, моляцца. Ніхто з іх не лаяўся, не піў алкаголь і не ўжываў наркотыкі, бо гэта забараняе іх вера.

Вельмі ўражвала! Я сам пачаў прасіць патлумачыць мне некаторыя нюансы, спрабаваў даведацца больш — яны пайшлі насустрач і расказвалі аб Прароку, аб Каране. Гэта літаральна за душу хапала, я разумеў, калі ёсць вера — то вось яна.

Але тут пачаліся праблемы з фінансамі — клуб не выплочваў заробкі і неўзабаве зачыніўся. Таму прыйшлося вяртацца ў Баранавічы, і ўжо тут я вырашыў, што хачу прыняць іслам. Беларуская мусульманне мне ў гэтым дапамаглі.

**«НН»: Што змянілася ў тваім жыцці?**

**РМ:** З'явіліся новыя сябры і галоўнае — вера. Іслам даў мне тое, чаго не магло даць праваслаўе. Вось паглядзі: колькі праваслаўных шчыра вераць у Бога, выконваюць усе ягоныя прыказанні? У людзях няма веры — яны прыходзяць у храм не для таго, каб падзякаваць Богу за тое, што маюць, а каб папрасіць аб нечым, калі «прыперла», як кажуць.

Вера пераўтвараецца ў бізнэс, у храмах рэлігійныя рэчы прадаюцца за грошы! Мяне гэта абурае — у мячэці, калі ты хочаш больш даведацца аб Алаху, можна бясплатна ўзяць усё, што табе для гэтага трэба. І ніхто не папросіць заплаціць. Ёсць, канечне, сістэма добраахвотных ахвяраванняў, але кожны месяц імамы справаздачацца перад сваімі прыхаджанамі: колькі грошай ахвяравана, колькі грошай пайшло на тое, колькі на гэтае, колькі аддалі нейкай сям'і, якой патрэбна была дапамога. Ты рэальна можаш бачыць, як твае сродкі накіроўваюцца на карысныя рэчы, і гэта вельмі натхняе!

І яшчэ — я заўважыў, што ўсё больш этнічных беларусаў прымаюць іслам. Канечне, у кожнага свае матывы, але мне падаецца, што ёсць адзін агульны фактар: людзям патрэбна падтрымка, яднанне. І іслам гэта дае.

Вось прыклад: звычайны «гоп-стоп» на вуліцы — хтосьці «зачапіў» беларуса. І што зробяць мінакі? Не будзем сябе падманваць — большасць зробіць выгляд, што нічога не здарылася і пойдзе хутчэй. А ты паспрабуй зачапіць мусульманіна, калі побач будуць ягоны браты па веры — адразу збяжыцца народ і адаб'е свайго!

Я мяркую, што замест таго, каб адварочвацца адзін ад аднаго, мы павінны яднацца і быць бліжэй — у шчыльных шэрагах беларусы прынясуць больш карысці дзяржаве.

**«НН»: Як на твой выбар адрэагавалі родныя і сябры?**

**РМ:** Хто як. Маці сказала: «Рабі так, як лічыш патрэбным». Бабуля крыху «пабурчэла» і без аптымізму прыняла выбар,а жонка цяпер не гатуе стравы са свініны. Праўда, я дзесяці паўгода рыхтаваў бацькоў да свайго кроку — дзе слова скажу пра іслам, дзе два. Неяк так паступова і атрымалася, што ўсё прайшло без шоку з іх боку.

Што да сяброў, то яны спачатку дзівіліся, а цяпер і самі цікавяцца ісламам, просяць ім расказаць аб маёй веры.

Праўда, былі і такія, хто пачаў казаць кшталту «ў тэрарысты задзелаўся?». Смешна проста! Я ім тлумачу — мусульмане ў Беларусі ўжо некалькі стагоддзяў жывуць і нічога яшчэ не ўзарвалі. Таму не трэба блытаць нашыя і ўсходнія рэаліі, дзе распаўсюджаны радыкальны ісламізм. І пагрозы нейкай ад мусульманаў у Беларусі няма — я ніколі не чуў ад аднаверцаў ніводнай радыкальнай думкі. Усіх турбуе толькі эканоміка, ніякага гвалту ў галовах. Усе хочуць міру, тым больш — на фоне апошніх падзей у свеце.

**«НН»: Тады як ты глядзіш на дэпартацыю мусульман-салафітаў?**

**РМ:** У маім разуменні салафіты мала чым адрозніваюцца ад вахабітаў, што не робіць ім павагі. Але я не думаю, што тыя людзі маглі рыхтаваць нейкія тэракты. Бо якая ў гэтым логіка? Сёння іслам у Беларусі ніхто не прыгнечвае, і гвалтоўнымі дзеяннямі можна дамагчыся толькі негатыву. На маю думку, ніхто сёння не пойдзе на абвастрэнне сітуацыі.

**«НН»: Якой рэлігіі будуць твае дзеці?**

**РМ:** Я буду выхоўваць іх у ісламскіх правілах, але не пазбаўлю выбару. Калі з цягам часу мой сын ці дачка зразумее, што гэта не яго — я не буду іх гвалтоўна трымаць у веры, гэта немагчыма.

**«НН»: Ці прыжыўся б у Беларусі шарыят?**

**РМ:** Не думаю, гэта ненатуральна для нас. Шарыят — гэта хадзіць на «дыбачках». Адсекчы за крадзеж руку — мо і правільна, але як па мне — хай злачынца лепш сядзіць 10 гадоў, чым робіцца інвалідам. Гэта вельмі жорстка.

**«НН»: Ці стаў ты менш адчуваць сябе беларусам, калі прыняў іслам?**

**РМ:** Я змяніў веру, а не радзіму. Зрэшты, рабіць намаз можна хоць у вышыванцы — галоўнае, каб вопратка не была забруджана крывёю ці чым іншым.

**«НН»: Можа, вера дапамагае табе перамагаць на рынгу?**

**РМ:** Безумоўна! Намаз дапамагае падрыхтавацца, дае духоўную сілу. І вось маё назіранне: ужо стала завядзёнкай тое, што ў баях дамінуюць мусульмане. Паглядзі — што ні чэмпіён па барацьбе, дык дагестанец, ці інгуш, ці азербайджанец, чачэнец. Магчыма, і мне дапамагае Алах.

І, дарэчы, пасля прыняцця ісламу я нават заснаваў у Баранавічах сваю школу па ММА. Дзесяці палова маіх выхаванцаў — студэнты з паўднёвых краін, мусульмане. Але беларусам я нічога рэлігійнага не навязваю, толькі часам нагадваю аб тым, што прынамсі «бухаць» і лаяцца — гэта брыдка.

**Гутарыў Арцём Гарбацэвіч**





**Ад Рэдактара**

Вось такі выпадак, вось такімі матывамі кіраваўся Эдуард. У свой час пратэстантызм узнік на хвалі пошуку людзьмі сапраўднай, не скажонай, не казённай веры. А цяпер, бачыце, хтосьці шукае веры нават у ісламе.

Што можа адказаць на гэта Праваслаўная царква, якая пагрузілася ў рускі шавінізм, стварае казакаў? Што Вы пра гэта думаеце?

Пішыце на nn@nn.by або на Мінск 220050 а.с.537.

# Развітанне з будучыняй, альбо

**Сяргей Ваганаў** пабываў у Браслаўскім раёне, дзе ў 1960-я гады працаваў настаўнікам.

«...Дарэчы, і тваю школу ў Далёкіх з верасня закрылі, — Ванда бездапаможна ўздыхнула, і размова перайшла на Опсаўскую школу-інтэрнат, у якой прайшло ўсё яе, цягам 40 гадоў, настаўніцкае жыццё. — Яна ўжо другі год як зачынена...»

Школа-інтэрнат для дзяцей-сірот месцілася ў былым маёнтку Плятэраў, а потым, ад 60-х, — праз дарогу, у вялікім, тры паверхі, тыпавым будынку. Але і пасля таго частка дзяцей заставалася жыць у палацы над возерам, да якога спускалася шырокая лесвіца. Унізе, трохУ злева, на беразе, — стары, у некалькі абхватаў, дуб. Гадоў трыста яму. Па легендзе, да яго прывязваў каня сам Напалеон...

## 1. Далёкія

### Парваны ланцуг

— Кагосьці шукаеце?

Ля замкнёных дзвярэй крамы смаляць два мужыкі ў камуфляжы, чакаюць, калі адчыніцца.

— Так, шукаю, — адказаў я, — мінулае шукаю... Вось, адшукаў магілу Верам'ёва. Мо памятаеце такога?

— А то ж! — дужы, старэйшы, смачна зацягнуўся, папляваў на тлеючы попел і раскамячыў недакурак у тоўстых, з пачарнелай задубелай скурай, пальцах.

— Сваяк?

Да Івана, на могілкі на ўскрайку Опсы, я завітаў па дарозе ў Далёкія. Іван Кірылавіч Верам'ёў, муж Ванды, выкладаў біялогію ў школе-інтэрнаце і быў настаўнікам ад Бога. Жыццё пакінула яго раптоўна, падчас навагодняй школьнай вечарыны.

— Не, не сваяк. Сябравалі. Я таксама тут настаўнічаў. У Далёкіх... У 60-я. Паўвека прайшло...

Іван Антонавіч Пяткун — адзіны сябар, хто застаўся з часоў майго настаўніцтва ў Далёкіх, адзіная нітачка ад мінулага. Яму 76 гадоў, ён дрэнна чуе, хворыя сасуды, але трымаецца, бо трэба даглядаць жонку Веру, прыкаваную да ложка. Яна, прыслухоўваючыся да нашай размовы, папраўляе мужа, калі ён нешта блытае. Большую частку жыцця, 33 гады, ён настаўнічаў, выкладаў машыназнаўства, вёў урокі працы. «Да 80 працэнтаў маіх выпускнікоў заставаліся працаваць у калгасе. Дык то ж калгас быў, адных трактароў звыш паўсотні. Добра, калі цяпер іх некалькі...»

Пра калгас згадвалі амаль усе, каго я пытаўся, чаму закрылі школу. Усё ўпіраецца ў калгас, дакладней у тое, што яго сядзібу колькі год таму прыбралі з Далёкіх. Апошнім разам — ажно ў Казяны, за 70 км. Памер, як у свой час на цаліне... Затое назва сучасная — ТАА «Новая гвардыя»...

Калгас — праца — школа... Адзін ланцужок. Чаму ж такі слабы аказаўся? У Далёкіх заставалася 18 настаўнікаў на 22 вучні — здохлая справа.

...Школу ў Далёкіх — драўляную, з мезанінам, ад чаго яна нагадвала былую сядзібу, прывезлі аднекуль і паставілі ў 1947 годзе. У 1963-м, на мой першы настаўніцкі год, калгас называўся «Праўда».

Пачалося маё настаўніцтва з таго, што давялося абараняць ад разлаваных мужыкоў з віламі маладога хлопца фінінспектара, які прыпёрся на калёсах ажно з Браслава правяраць, ці трымае хто на падворку забароненую скаціну — яе належала здаваць у калгас. Лупіць не лупілі, але з воза злезці не далі...

«Праўду» праз які годператварылі ў «імя Варашылава». Далей былі пераўтварэнні, узбуйненні і разузбуйненні, так ці інакш хацелі захаваць калгасны лад. Так і дабілі вёску.


Закрытая Далёкаўская школа. Іван Пяткун (справа) аддаў школе 33 гады.

Па сутнасці, працэс закрыцця школы ў Далёкіх пачаўся калі не з дня адкрыцця, дык разам з утварэннем калгаса. Бо ні ў паспяховыя, ні ў няўдалыя для калгаса гады ніхто тут нічога іншага для сваіх дзяцей не жадаў, як толькі збегчы з яго. Хто куды, хто з чым, хто кім...

Іван ганарыцца тым, што 80% ягоных выпускнікоў заставаліся ў калгасе, але пры гэтым яго дочкі таксама разляцеліся па свеце. Адна, пажыўшы ў Чэхіі, прытулілася да Віцебска. Другая ўгразла ў Грэцыі, даглядае ў казіно ігравыя аўтаматы.

А ў Далёкіх цяпер 153 двары. Але 26 з іх — пустыя. І жыхароў усяго 371. З іх 17 дзетак да 6 гадоў, 30 — ад 6 да 17, 217 працаздольных, 107 пенсіянераў.

Пра гэту дэмаграфію я даведаўся ад Марыі Станіславаўны Баліко, старшыні сельсавета. Яна лічыць, што школу закрылі таму, што бацькі не хочуць нараджаць. «Як жа можна было ўратаваць! — амаль што з крыўдай усклікае Марыя Станіславаўна. — 13 дзяцей пранапавалі прыняць на выхаванне ў настаўніцкія сем'і. З Друі, з дзіцячага дома. Адмовіліся. І самі не нараджаюць... А ўвогуле нараджаць не хочуць таму, што вёску заліло гультайства і п'янка. Я тут лагер збудавала б для ўсёй гэтай п'яні, дала б замест грошай хлеба, мукі, солі... Жывіце!» — гарачыцца Марыя Станіславаўна...

Сама яна мясцовая, нарадзіла і выхавала трох сыноў. Дзе яны? У Віцебску.

### Рэха здалёк

Новая школа была збудаваная ў 1972 годзе. Цяпер яна пустая. Толькі ў пары пакояў месціцца сад. 6 дзетак і загадчыца, яна ж і выхавацелька.

Ціха ў пакінутым школьным музеі. Калісьці я перадаў у яго старажытныя арабскія дырхемы. Іх, не шкадуючы, адсыпаў мне светлай памяці Валянцін Навумавіч Рабцэвіч, знакаміты ўжо на пачатку 60-х выкладчык нумізматыкі на гістфаку, у абмен на некалькі рымскіх, ажно з антычных часоў, сярэбраных манет, што выкапаў Янак Ундруль на сваім агародзе ля Крывавага, нейкая даўняя назва, ручая. Дырхемы тыя я пакінуў школе. Каб той, хто прыйдзе пасля мяне, стварыў музей. Ну і на памяць. Але не адшукаў...

Затое адшукаў фота сваіх вучняў. У Далёкіх з іх не жыве ніхто.

І адшукаў верш: «Прыеду і прайдуся па вёсачцы роднай. // Змянілася, родная, зусім не пазнаць. // Куды ні зірні — шмат бязлюдных дамоў. // Знямеўшы, пасунуўшы, сумуюць, стаяць... // Шмат успамінаў тут, у роднай вёскі. // І дзе я ні буду, на якой зямлі, // Жыві, мая радзімая старонка, // Матулька-вёсачка, жыві!

Цыўнель Алена» ...

Алена... Помню яе трохгадовай дзяўчынкай. Ляпнула мяне па жываце праз коўдру, ды моцна так. Круглы тварык, шчокі, уперылася блакітнымі вочкамі: «Ты хто?»

Хто... хто... хто...

Даляцела ўсё ж рэха ад першай маёй раніцы ў Далёкіх.

Рэха здалёк.


Жанна Станкевіч — гаспадыня сядзібы, сацыяльная работніца і мастачка.

### Жанна, гаспадыня сядзібы

Жанне Станкевіч 33 гады, але такі ўжо не дзявочы ўзрост хавецца глыбока ў позірку, за прамянямі маладой лагоднай усмешкі. Жанна не замужам, і на асцярожнае пытанне пра перспектывы адказвае, што ў Далёкіх з гэтым цёмна: «Няма каго браць — ні замуж, ні так...»

Да хаты на ўскрайку Далёкіх мяне прывяла выстава яе карцін, што зладжана ў Доме культуры. Карціны — вышываныя і ў тэхніцы «ваўнянага жывапісу», якую Жанна засвойвае апошнім часам. Ці здольная прыгажосць ратаваць знікаючы свет?

Схаваць узрост хаты цяжкавата, я адразу пазнаў у ёй колішнюю аптэку. Праўда, ад былой аптэкі засталося толькі падстрэшша, ашаляванае счарнелай вагонкай. Сама ж хата ўжо абкладзена белай цэглай, ганак пафарбаваны ў колер сонечнай раніцы, ружовы, у вокнах шклопакеты, а на сцяне — дзве спадарожнікавыя талеркі. І ўсё гэта — пад чырвоным, з андуліну, дахам. Трохі псуе карціну паўразвалены хлеў.

Мо і не трэ' было засяроджвацца на гэтым будаўнічым працэсе, каб не рабіўся ён на сродкі і ўласнымі рукамі самой Жанны. Ну і матуля дапамагае, Марыя Аляксееўна. За сценкай час ад часу даносіўся моцны храп ці аднаго, ці ўсіх трох братоў, што адпачывалі пасля чарговай п'янкі. «Выхваляліся, што за лета і восень зарабілі ажно 23 мільёны, — усміхаецца Жанна, — але ж ні капейчыны не далі, усё сышло ў бутэльку...» — «У калгасе зарабілі?» — «У якім калгасе?! Па чужых сотках...»

А Жанна працягвала: «Усяго нас было дзевяць дзяцей, засталося сем — тры браты ды чатыры сястры... Сёстры раз'ехаліся, а двое братоў загінулі — адзін на ровары забіўся, другі атруціўся...»

Здавалася б, вось яна, будучыня Далёкіх, што нараджалася ад 1975 года, калі бацькі ажаніліся.

За Далёкія зачапіўся яшчэ бацька са сваімі бацькамі. Родам з Понішак, ці з Лабінскага балота, як яшчэ называлася тая мясціна. На пытанне, што там, хутар ці вёска, Жанна адказала: «Нічога. Там ужо нічога няма». Мусіць, па Станкевічах праехалася «палітыка партыі» ў 60—70-х гадах — ссяленне хутароў. Спярша тая палітыка малявала неблагую перспектыву: ажаніліся, уладкаваліся ў калгасе — матуля даяркай, бацька конюхам ды пастухом... Але з часам...

Жанна скончыла Відзаўскае СПТВ і атрымала прафесію — «гаспадыня сядзібы». У дадатак — повар, аператар машыннага даення і агароднік. Але ніводная з чатырох прафесій заробку не дае. Грошы Жанна зарабляе з працы сацыяльным работнікам — даглядае двух старых. Падзарабляе і на прыватных будоўлях, што вядуць у азёрным наваколлі прыезджыя багатыя людзі, і з журавін, па якія ездзіць на ровары за 20 кіламетраў. Яшчэ конь ёсць — каму што падвезці...

З вышывак сваіх не мае нічога. Толькі каб людзі глядзелі ды марылі аб шчаслівым жыцці... Але ці будзе ў Далёкіх каму глядзець? Жанна паціснула плячыма: «Будоўлю трэба скончыць. А там... Час пакажа...»

Калі паспее, падумаў я.

## 2. Далёкія — Опса

### Удар. Яшчэ ўдар

Калі вяртаўся ў Опсу, насустрач ужо пыліў жоўты аўтобус. Я міргнуў фарамі, ён — у адказ. Але, абдаўшы пылам, не спыніўся...

Папярэдне хацеў сустрэцца з Раісай Міхайлаўнай Койра, былой дырэктаркай Далёкаўскай школы. Мяне цікавілі абставіны закрыцця, а заадно — як вучні пачуваюць сябе, патрапіўшы з беларускамоўнай школы ў рускамоўную, якой, у адрозненне ад Далёкаўскай, заўжды была сярэдняя школа ў Опсе. Але нечакана сутыкнуўся з катэгарычнай адмовай. «Няма пра што размаўляць», — у голасе Раісы Міхайлаўны чулася стомленая раздражнёнасць...

У Опсу я вяртаўся расстроены. Засмучала адмова былой дырэктаркі. І тое, што не было хвалюючага развітання са школай. Калі сыходзіць чалавек, збіраюцца людзі, каб выказаць яму падзяку і праводзіць у апошні шлях. А калі памірае школа? Што, пакінуць усе пачуцці ў музеі і замкнуць на ключ? Няўжо настаўнікі толькі і былі заклапочаны сваім далейшым лёсам? Які, дарэчы, склаўся даволі спрыяльна — ніводзін не застаўся без ра-

# Як закрываюцца школы

боты. Хто ў Богіне, хто ў Відзах, але ў асноўным у Опсе. А мо Раіса Міхайлаўна таму і адмовілася сустракацца, што цяжка?

У Опсаўскую сярэднюю школу я трапіў якраз у перапынак. Звычайны школьны перапынак — з дзіцячым гоманам, беганінай па калідорах...

За ўсім гэтым моўчкі назірала мілавідная жанчына ў вязанай кофце і вольна накінутым на плечы шалі. Нешта хатняе было ў яе абліччы, уласцівае сельскім настаўніцам... «Не ведаеце, хто тут з настаўнікаў з Далёкіх?» — «А я з Далёкіх і ёсць...»

Ірына Станіславаўна Высоцкая нарадзілася ў іншым кутку Браслаўшчыны, у Плюсах. Скончыла школу, потым педінстытут у Даўгаўпілсе, што для моладзі з браслаўскага краю было не рэдкасцю.

У Далёкіх Ірына Станіславаўна апынулася напрыканцы 80-х — намеснікам дырэктара і выкладчыцай фізікі. Здолела прышчапіць далёкаўскім вучням любоў да фізікі. Асабліва таму, хто паступіў вучыцца ў мінскі БАТУ і ў 1992 годзе вярнуўся ў Далёкія калгасным электрыкам і мужам прыгожай настаўніцы. Гэткая аказалася прышчэпка да роднай зямлі. Ці ўтрымаецца?

Ці ўтрымаюцца галоўны калгасны, ад Далёкіх да Казян, электрык і ягоная жонка-настаўніца на тым гектары зямлі, што апрацоўваюць, каб выжыць? Апошнім разам муж прынёс ажно паўтара мільёна, дый то пасля шматмесячнай затрымкі. «Быў час, калі ён зарабляў у два разы больш за мяне. Цяпер — я», — усміхаецца Высоцкая і сцвярджае, што ніколі «не зацыклівалася» на заробку.

Пра шмат што размаўлялі мы з Ірынай Станіславаўнай. Аказваецца, прыспешылі закрыццё Далёкаўскай школы пераўтварэнне з сярэдняй у базавую і... моўнае пытанне.

Школа ў Далёкіх была беларускамоўнай. А ў суседніх Відзах — рускамоўнай. І людзі з Богіна сталі адпраўляць дзяцей не ў Далёкія, а ў Відзы, бо там мова навучання «больш перспектыўная»...

А я згадаў свой 1963 год, калі школа ў Далёкіх была рускамоўнай, і педнараду, скліканую па заяве Раісы Пракопаўны, тагачаснай настаўніцы беларускай мовы. Маўляў, замест таго, каб весці ўрок, спяваю вучням «Выхожу один я на дорогу».

Так, «метадыкай», якая глушыла ўсялякую цікаўнасць да літаратуры, дзякуй богу, не валодаў. І калі вывучалі Лермантава, палічыў за лепшае праспяваць любімы раманс. І як слухалі!

Піднарада скончылася на маім пытанні да Раісы Пракопаўны, чаму яна выкладае беларускую мову на рускай. (Толькі і чулася: «Коска! Я сказала — запятая!») «А каму яна спатрэбіцца, ваша беларуская мова?!» — адказала яна.

Гэтае «ваша мова» згадалася мне напрыканцы мая, калі пісаў характарыстыкі на сваіх вучняў. У ліпені мяне тэрмінова адклікалі з Мінска, з канікул — ніводзін тэхнікум характарыстыкі не прымае. Не буду сцвярджаць, што з-за мовы, хутчэй з-за маёй наіўнай дурасці, бо напісаў нейкія партрэты — хто чаго варты. «Напішыце, як трэба, — дырэктарка нервова працягнула мне стос паперак, — і *па-руску...*»

У Раісы Пракопаўны вучылася і Ала Леанардаўна Шулья, у дзявоцтве Таранда, мастацкі кіраўнік Дома культуры. Пра тое, як яна выцягвае Дом культуры з агульнага занепаду, патрэбны асобны аповед. Глядзім старыя здымкі, што захоўваю ў ноўтбуку, мо каго пазнае. Гартаем тоўсты альбом, на якім, які і ў школьным музеі, пазначана — «летапіс», а там ізноў верш: «...Хай будзе не сурочана // Твая краса, Далёччына... // Хай вёска беларушчына // На тло не будзе пушчана...»

Прапыліў міма жоўты аўтобус, які штодня возіць былых вучняў і былых настаўнікаў былой школы. У Опсу і назад, у Далёкія. Да тла.

## 3. Опса

### Вакол шара

Пацвярджэнне таму, што Час круглы, нібы глобус, я нечакана сустрэў на падворку Опсаўскай сярэдняй школы. У атачэнні цяжкіх металічных ланцугоў і дзвюх прыгожых елак на пастаменце стаяў вялікі, з граніту, шар. Я адразу пазнаў яго. Гэта быў шар з маёнтка Плятэраў, з тых, што ўпрыгожвалі слупы ўязной брамы.

У Опсе было дзве школы: гэтая сярэдняя і школа-інтэрнат. Інтэрнат закрылі ў 2013 годзе. Закрывалі таксама паступова, разам са змяншэннем на Віцебшчыне колькасці дзетак-сірот і дзетак з хібамі развіцця. Да апошняга яго падтрымлівалі італьянцы, што вазілі дзетак на аздараўленне.Яны, ды яшчэ ірландцы і шведы, зрабілі ў інтэрнаце шыкоўны рамонт, паставілі найноўшую тэхніку на кухні і ў пральні, аднавілі ўсю мэблю...

Цяпер усё гэтае багацце пад вялікім свірнавым замкам чакае аўкцыёна. «Ат добра было б, каб хто адкрыў тут Дом састарэлых! — смяюцца Навойчыкі з Вандай. — Паздавалі б кватэры і, праз дарогу, да светлай будучыні...»

### Цяпло на зямлі

Іосіф Браніслававіч і Ніна Мікалаеўна Навойчыкі ў Опсе з 1954 года, і амаль 60 гадоў як жанатыя. Ён фізік, яна — матэматык.

Іх жыццё, жыццё Ванды, што выкладала літаратуру, маіх адзіных у Опсе сяброў, засталося вясковым — агароды, свінні, куры, хаджэнне на хворых нагах у далёкую краму па хлеб. Што праўда, пры інтэрнэце, які звязвае з дзецьмі і ўнукамі — ад Віцебска да Берліна...

У былых настаўнікаў тры праблемы.

Па-першае, камунальнікі не хацелі браць на сваё ўтрыманне школьную кацельню; між тым яна абагравала таксама настаўніцкія дамы.

Па-другое, энергетыкі адключылі ў хляўках святло, бо яны «не прыватызаваныя»

Па-трэцяе, ТАА «Сядзібы і замкі», дачка мінскага Цэнтра гандлю нерухомасцю «Пакадан», перакупіла былы маёнтак Плятэраў у Беларускага таварыства інвалідаў, якому ён дастаўся ў 90-я. «Пакадан» хоча стварыць тут VIP-гатэль.

Усё трымалася тут на школе...

Кацельню былым педагогам адстаялі іх былыя вучні. Аж да Касінца дайшлі. Цяжка нават зараз сказаць, што больш грэе настаўнікаў-пенсіянераў — тая кацельня ці сардэчны клопат сваіх выхаванцаў.

### Святло з-пад зямлі

Школу зачынялі ад верасня. А ўлетку быў страшэнны ўраган з навальніцай. Грымнула недзе паблізу — адразу ва ўсёй Опсе згасла святло і пачуўся жудасны трэск, нібыта зламалася тое, на чым трымаецца свет.

Мы ідзём да дуба Напалеона.

На слупах, што засталіся ад некалі велічнай брамы маёнтка, дзве шыльды: адна абвяшчае пра «гісторыка-культурную каштоўнасць», другая — пра «частную территорию», якая «охраняется». Вакол тэрыторыі — плот з дошак, як пад загарадзь для скаціны. На слупку — яшчэ шыльдачка: «Ведётся реконструкция».

Насамрэч, ніякай рэканструкцыі няма. Ад Беларускага таварыства інвалідаў застаўся адзін бляшаны дах, што выглядае нейкім непаразуменнем над паўразваленымі сценамі. Астатняе раскурочана дашчэнту — вокны, шыбы, падлогі...

За тры гады, што шматпакутны маёнтак Плятэраў ва ўласнасці ТАА «Сядзібы і замкі», не зроблена анічога. А рэкламавалі ж, распісвалі перспектывы. Прапаноўвалі настаўнікам прадаць свае кватэры па бясцэнак, збіраліся знесці дамы, каб будучым VIP-ам нішто не мазоліла вочы, не перашкаджала цешыцца прыродай ды адчуваць сябе датычнымі да гісторыі...

...Дуб ляжаў нібыта магутны зубр, спасцігнуты раптоўнай смерцю, захаваўшы ў велічнай нерухомасці апошні момант жыцця. Я набліжаўся да яго, пагладжваў па глыбокіх зморшчынах, угрэтых лістападаўскім сонейкам, адыходзіў, намагаючыся змясціць яго ў кадр. Але ён не змяшчаўся.

«Так, — сумнавата згадвае Ванда, — Верам'ёў вельмі любіў гэты дуб... А дубок бачыш?» — «Не, не бачу. Які дубок?» Яна бярэ мяне за руку, падводзіць да мёртвага дуба з іншага боку. «Гэта нашы былыя вучні, як даведаліся, што дуб паваліўся, з'ехаліся і пасадзілі новы... Бачыш?»

Так, бачу. Цягнецца да сонейка танюсенькая галінка з трапяткімі жоўтымі лісточкамі.

Нібыта слупок святла з-пад зямлі.



Былы маёнтак Плятэраў цяпер належыць ТАА «Сядзібы і замкі».



Дуб паваліўся ў год, калі закрылі школу-інтэрнат.

## 4. Браслаў

### Аптымізацыя катастрофы

У суме, нават у роспачы ад пабачанага вяртаўся дадому. У Відзах у аўто падсела прыгожая маладая жанчына. «Выбачайце, спазняюся... Падкінеце да Казян?»

Казяны, нагадаю, той самы цэнтр калгаса «Новая гвардыя», у складзе каторага паміраюць Далёкія. Ну а што самі Казяны? Жывуць?

«Што вы! — усклікнула Ірэна. — З кожным годам дзетак усё меней. Дык настаўнікі за кожнага змагаюцца. Мінулым летам адзін ажно ў Полацк лётаў, сілай забраў дакументы свайго вучня з тэхнікума, куды той пасля 9 класа мусіў паступаць. Каб хаця б пяць вучняў у 10-м пакінуць і сярэднюю школу захаваць, пазбегнуць базавай» — «А дзе яна?» — «Школа? Дык няма яе...»

Так высветлілася, што будынка школы ў Казянах няма. Настаўнікі працуюць, а дзеці вучацца па розных памяшканнях...

Напярэдадні, у чаканні сустрэчы з кіраўніком аддзела адукацыі, спорту і турызму Браслаўскага райвыканкама Іванам Абаровічам, я вывучаў стэнд Браслаўскага раёна. Пад агульнай назвай «Проблемы района» на ім пазначалася: «Оптимизация образовательного процесса в условиях модернизации региональной системы образования. Цель: создание условий для повышения качества образования через оптимизацию эффективных форм и методов работы».



Начальнік аддзела адукацыі, спорту і турызму Браслаўскага райвыканкама Іван Абаровіч.

Падумалася: дзяржаўная машына, здольная ствараць такія тэксты, катастрофа сама па сабе.

Калі адабралі ў народа зямлю і мову, асновы асноваў, — якія «оптимизации» ўтрымаюць людзей на роднай зямлі, уратуюць вёску ад катастрофы?

«Мова — гэта святое, — сказаў галоўны на сёння «оптимизатор», Аляксандр Лукашэнка. — І ў нас ёсць усё для таго, каб спакойна — калі трэба, 20 гадоў, каб паставіць беларускую мову ўпоравень з рускай...»

Мы ўжо 20 гадоў чуем пра «ўпоравень». І яшчэ дваццаць?! Толькі за 11 апошніх у раёне знікла 15 школ, усе беларускамоўныя.

Але сёння ў Далёкіх вы не пачуеце беларускага слова, калі не загаворыце самі. Ведаць ведаюць, але размаўляць не спяшаюцца. Ці ж магчыма вёсцы супрацьстаяць рускамоўнай тэлевізійнай, дый адусюды, навале?! Ад мовы, на якой далёкаўскія размаўлялі да 80-х гадоў, нават крушняў не засталося.

— Чаму? — запытаўся я ў Івана Антонавіча.

— Мо час упушчаны, — Абаровіч пацiснуў плячыма, — мо...

Трэба спяшацца! Пакуль яшчэ ёсць такія, як Пяткун, вучань з апошняга, перадсмяротнага 9-га класа Далёкаўскай школы, які перамог на рэспубліканскай алімпіядзе па роднай мове.

У вачах Абаровіча боль, успамін пра роднае, гэтаксама знікаючае Дварышча, што паміж Дрысвятамі і Опсай, і клопат — як не пакінуць без працы настаўнікаў і захаваць школьныя будынкі. На будучыню. «А раптам! — усклікае Абаровіч. — Раптам усё яшчэ вернецца...»

Мне шкада яго надзеі, а мо і мары. Бо раптам будучыня не нараджаецца. І не раптам памірае.

Толькі пасля цяжкой працяглай хваробы.

*(Публікуецца ў скарачэнні.)*



Настаўніца Ірына Станіславаўна ездзіць на працу з Далёкіх у Опсу, за 7 км.

# Прывіды — гэта галюцынацыя ад інфрагуку?

**Усё паранармальнае можна патлумачыць метадамі традыцыйнай навукі, лічаць беларускія ўфолагі.**

У небе над Магілёўшчынай з'яўляюцца відзежы замкаў. Чалавек губляецца ў лесе, выходзіць адтуль праз тры дні абсалютна голы і не памятае, дзе быў. На Берасцейшчыне людзі бачылі агністы шар, у якім штосьці пульсуе, а на Гомельшчыне — змея з чалавечым тварам. Сюжэты з міфаў і паданняў, праўда? Між тым гэта сігналы, атрыманыя сучаснымі даследчыкамі паранармальных з'яваў за апошні час.

25 студзеня ў Мінску прайшла канферэнцыя супольнасці «Уфакам», якая звалася «Таямнічая Беларусь».

Супольнасць уфолагаў узнікла ў 2001 годзе, калі асобныя аматары даследаванняў паранармальнага аб'ядналі сілы ў пошуках НЛА. «Уфалагічны камітэт» (ад UFO — англійская абрэвіятура НЛА) у хуткім часе стаў цікавіцца ўсім, на што навука не звяртае ўвагі: ад прывідаў да сакральнай геаграфіі ці пошуку метэарытаў. Гэта нефармальная супольнасць, якую ніхто не фінансуе.

Ілля Бутаў, каардынатар «Уфакама», якраз і апавядаў пра экспедыцыю на Гомельшчыну і пошукі агромністай змяі «з галавой, як у добрага дзіцяці». Асноўныя сведчанні пра яе паступалі ў 1940—70-я, але і сёння ёсць сігналы. Раптам чарговая «чупакабра» вывіецца неапісаным рэдкім відам, вырашылі ўфолагі. Але злавіць змяю не ўдалося.



**Далучыцца да «Уфакама»**

можа практычна любы, хоць школьнік. Дастаткова запоўніць анкету на сайце «Уфакама». Але ў экспедыцыю не возьмуць маладзейшых за 18 год.

### Лабараторнае «жалеза»

Даследчыкі паранармальнага не вераць у марсіян ці нячысцікаў. Дакладней, не павераць, пакуль не атрымаюць навуковых пацверджанняў.

Літаральна на днях «Уфакам» атрымаў паведамленне з Брэсцкай вобласці пра вялізны агністы шар, у сярэдзіне якога нешта рухаецца. На выходных даследчыкі паедуць апытваць відавочцаў. Калі з'ява будзе падобнай да анамальнай, даследчыкі правядуць аналіз глебы, электрамагнітнага поля, радыяцыі... Калі прыйдзе паведамленне аб прывідзе, прыйдзецца вывучыць і гісторыю месца, старажытныя легенды.

З выпадкамі, якія б супярэчылі сучаснай карціне свету, «Уфаком» яшчэ не сутыкаўся. «Усе з'явы могуць быць патлумачаныя метадамі традыцыйнай навукі», — кажа Ілля Бутаў. Напрыклад, паведамленні пра прывідаў — высокім узроўнем у наваколлі інфрагуку, які ўплывае на мозг, выклікае галюцынацыі.

Аўтаномная сістэма відэаназірання, фіксатар электрамагнітных хваляў, спараныя секундамеры для пошукаў анамалій у часе, дакладныя датчыкі змены тэмпературы, цэлы комплекс іншых дэтэктараў, аналізатараў — сябры «Уфакама» пры магчымасці набываюць лабараторнае абсталяванне, паказанні якога не сорамна выкарыстаць у навуковых працах.

### Хадзячыя мерцвякі і кіраванне снамі

Праект чарговай экспедыцыі прапанаваў Віктар Гайдучык, гісторык і каардынатар «Уфакама». Яго зацікавілі агульныя для ўсёй Еўропы ўяўленні пра «жывых мерцвякоў», даследаванне такіх гісторый у Беларусі ён прапануе пачаць з Палесся. У гісторыі Еўропы не раз узнікалі сюжэты з дэвіянтнымі пахаваннямі, калі памерламу «чараўніку» адсякалі галаву ці забівалі ў сэрца асінавы кол, каб не выбраўся з магілы. У Беларусі такія выпадкі фіксуюць не толькі народныя паданні, але і юрыдычныя дакументы XIX стагоддзя.

Фізік Дзмітрый паралельна з асноўнай працай ужо 20 гадоў вывучае кіраванне снамі і пазацялесныя перажыванні. Асноўная праблема яго дзейнасці — верыфікацыя, праверка сапраўднасці пабачанага ў паранармальных снах. Але містычнага ў яго рабоце нямнога. Напрыклад, дакладна вядома пра існаванне соннага паралічу — такой фазы сну, калі чалавек не можа рухацца і «ловіць глюкі». Задача ў тым, каб асэнсавана выклікаць гэтую фазу і даследаваць, што мозг можа паказаць свайму гаспадару.

### Экстрасэнсы тэст не прайшлі

Новыя паранармальныя з'явы разглядаюцца з навукова-пазітывісцкага гледзішча. Так, падчас дакладу аб даследаваннях радыеактыўнага газу радону ў жылых будынках, сябры «Уфакама» найперш пацікавіліся, якое абсталяванне выкарыстоўвалася для замераў. Самастойна сабранае? Калі ўдасца пацвердзіць слушнасць вынікаў, правільнасць калібровкі, то супраца з даследчыкамі радону «Уфакам» зацікавіць. Насцярожанасць адчувалася, і калі дакладчыца казала, што ў пошуку геапатагенных зон даследчыкі радону карыстаюцца дапамогай экстрасэнсаў.

**Калі чалавек бачыць нешта экстраардынарнае**

ён можа экстрана паведаміць пра гэта «Уфакаму» праз сайт ufo-com.net. Сябры супольнасці тут жа атрымаюць sms. Праўда, многія паведамленні фільтруюцца яшчэ да выездаў: у многіх «НЛА» яшчэ па апісанні можна распазнаць кітайскія ліхтарыкі і іншыя тэхнагенныя аб'екты.

«Да нас неаднаразова спрабавалі запісацца экстрасэнсы, — кажа Ілля Бутаў. — І мы можам прыняць экстрасэнса, калі ён пройдзе банальны тэст Зэнера — адгадванне закрытых картаў. Калі набярэ пэўны працэнт — што ж, я павеpу ў яго. Ды, на жаль, ніхто нават блізка не можа прайсці гэты тэст».

### На курганах і капішчах «зашкальвае»

Палова выступаў на канферэнцыі «Уфакама» тычылася этнаграфіі, сакральнай геаграфіі, фальклярыстыкі. Этнографы падказваюць анамалістам, дзе кажуць пра змея ў возеры, дзе — пра агні над балотам, тлумачыць Ілля. Але бывае і наадварот: там, дзе анамалісты праводзяць даследаванні, знаходзяцца пасля невядомыя курганы. Нейкім чынам старыя паданні і сучасныя назіранні геаграфічна прывязаныя да сакральных для продкаў месцаў, археалагічных помнікаў.

Археолаг Эдвард Зайкоўскі даследуе сакральныя камяні ды лічыць, што ў Беларусі ёсць месца, не меней таямнічае за славуты Стоўнхендж. Недалёка ад Полацка з валуноў выкладзеная фігура ў форме літары «П», прызначэнне якой яшчэ не вызначанае. Каля камянёў культурны пласт, як паказалі раскопкі, зусім неглыбокі, затое вялікае гарадзішча знайшлося на процілеглым беразе возера Янова. Што людзі рабілі ў тым «Стоўнхенджы»? Верагодна, комплекс звязаны з астранамічнымі з'явамі. Назва возера наводзіць на думку пра свята Яна, ды азімут не супадае з усходам сонца на Купалле. Даследчыкі знайшлі ў царкоўным календары свята іншага Яна ў канцы красавіка — якраз на гэты час размяшчэнне «Стоўнхенджа» мае астранамічны сэнс. «Уфакам» зацікавіўся гісторыяй і прапанаваў супольную экспедыцыю ўвесну дзеля даследавання загадкавай пабудовы.

Краязнаўца з Лынтупаў і аўтар кнігі «Скарбы сівых валуноў» Алесь Гарбуль даследуе паганскія капішчы, знайшоў больш за сотню аб'ектаў старажытнай культуры. Краязнаўца сцвярджае: многія нетлумачальныя выпадкі чалавечай псіхікі, галюцынацыі, страты прасторавай арыентацыі, выхад з ладу фота- і відэаабсталявання — усё гэта можа «навесці» на капішчы ці іншыя сакральныя месцы. Верагодна, тое, што мы сёння лічым паранармальнымі з'явамі, нашы продкі ўспрымалі як праявы боскай сілы. А прычыны тых праяваў дапамагае знайсці звычайнае, не звышнатуральнае, навуковае абсталяванне.

**Аляксандр Арсёнаў**

## ХАКЕЙ

### «Зубры» супраць «мядзведзяў»




3 лютага ў рамках Кантынентальнай хакейнай лігі мінскае «Дынама» прыме заграбскі «Медвешчак». Пачатак гульні а 19 на «Мінск-Арэне».

## БАСКЕТБОЛ

### «Цмокі» — «Чырвоныя крылы»

**31 студзеня на «Мінск-Арэне»** «Цмокі» ў рамках Адзінай лігі ВТБ прымаюць «Чырвоныя крылы» з Самары. Пачатак а 16.

## КАНЦЭРТЫ

### Яўген Барышнікаў

**Літаратурны музей Максіма Багдановіча (Багдановіча, 7а)** 30 студзеня запрашае на сустрэчу з музыкам Яўгенам Барышнікавым. У праграме — старыя і новыя песні, думкі ды рэфлексіі. Пачатак а 19.

## ІМПРЭЗЫ

### Вечарына Алеся Адамовіча

**31 студзеня ў Палацы мастацтваў (Казлова, 3)** пройдзе вечарына памяці Алеся Адамовіча — выбітнага пісьменніка, публіцыста, літаратуразнаўцы, сцэнарыста, грамадскага дзеяча, аднаго з заснавальнікаў Беларускага ПЭН-цэнтра. Пачатак а 16.

### «Дзеці Аліндаркі»

**31 студзеня а 18 Дзень нараджэння ў кнігарні «логвінаЎ» (Незалежнасці, 37а)** адзначае пісьменнік, публіцыст і перакладчык Альгерд Бахарэвіч. Падарунак аўтару ад кнігарні — адкрыццё персанальнай палічкі, на якой будзе прадстаўленая поўная бібліяграфія пісьменніка. На вечарыне будзе прэзентаваны раман «Дзеці Аліндаркі», паказаны




спектакль «Бог не роўна delete» паводле Францішка Багушэвіча з удзелам Юлі Цімафеевай і героя вечара — Альгерда Бахарэвіча. Прагучаць віншаванні сяброў і калег.

## ТЭАТР

### 29 студзеня

**Беларускай драматургіі** — Дзённік паэта (Інтымны дзённік)
**Купалаўскі** — Людзі на балоце
**Лялек** — Драй швестэрн
**Опера** — Мадам Батэрфляй
**Юнага гледача** — Крыху пяшчоты

### 30 студзеня

**Балет** — Шчаўкунок, або Яшчэ адна калядная гісторыя…
**Беларускай драматургіі** — Мабыць?
**Купалаўскі** — Вячэра з прыдуркам
**Лялек** — Чароўныя падарункі
**Юнага гледача** — Міхалава зямля

### 31 студзеня

**Беларускай драматургіі** — Кантракт
**Купалаўскі** — Дон Жуан
**Лялек** — Пэпі Доўгаяпанчоха
**Опера** — Набука
**Юнага гледача** — Беласнежка і сем гномаў

### 1 лютага

**Балет** — Карміна Бурана. Балеро, Трое парасят
**Беларускай драматургіі** — Сталіца Эраўнд, Два чароўныя парасоны
**Купалаўскі** — Дон Жуан
**Лялек** — Вясёлы цырк
**Юнага гледача** — Кот у ботах

### 3 лютага

**Беларускай драматургіі** — Тры Жызэлі
**Купалаўскі** — Пінская шляхта, Старамодная камедыя
**Опера** — Сівая легенда

### 4 лютага

**Балет** — Анюта
**Беларускай драматургіі** — Фінт-Круазэ
**Купалаўскі** — ГендэльБах, Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл





## ВЫСТАВЫ

### Type Directors Club

**У мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» (Кастрычніцкая пл., 1)** да 6 лютага будзе праходзіць выстава Type Directors Club (TDC), на якой упершыню ў Беларусі ўвазе гледачоў будуць прадстаўлены выдатныя прыклады шрыфтавога дызайну і тыпаграфікі, сабраныя з усяго свету. TDC — міжнародная арганізацыя, якая вядзе сваю гісторыю ажно з 1943 года. Яна ставіць перад сабой мэту пашырэння прафесійнай адукацыі ў галіне тэорыі і гісторыі шрыфту, шрыфтавога дызайну, новых тэхналогій і магчымасцяў шрыфту як інструмента камунікацыі.

### Выстава Арлена Кашкурэвіча




**Да 16 лютага ў Нацыянальным мастацкім музеі (Леніна, 20)** дзейнічае выстава «Ab imo pectore» («Ад усёй душы»). У экспазіцыі — арыгінальныя аўтарскія паштоўкі, выкананыя ў тэхніцы лінагравюры і прызначаныя для віншаванняў мастаком сваіх блізкіх, сяброў і калег.

## КІНО

### Бёрдмен

**Жанр:** драма, камедыя
**Рэжысёр:** Алехандра Гансалес Іньярыту
**У ролях:** Майкл Кітан, Эдвард Нортан, Зак Галіфіянакіс, Андрэа Райзбара, Эмі Раян, Эма Стоўн, Наомі Уотс, Кені Чын
ЗША, Канада, 119 хв.

Былы акцёр Рыган Томпсан, які некалі сыграў ролю папулярнага супергероя Бёрдмена, цяпер вырашае ўзяць удзел у новай брадвейскай пастаноўцы, каб вярнуць сабе былую славу. Не ўсё яго задавальняе ў гэтай п'есе, таму ён запрашае новага эксцэнтрычнага акцёра Майка, каб ажывіць пастаноўку і надаць ён рэалістычнасці.

Новы фільм Іньярыту расказвае пра жыццё акцёраў па-за сцэнай, творчыя пакуты і неабходнасць зноў і зноў даказваць сабе і іншым уласную вартасць. Стужка адсылае як да класічных фільмаў пра супергерояў, так і да апавядання Рэйманда Карвера «Пра што мы гаворым, калі гаворым пра каханне», па якім Томпсан ставіць сваю п'есу. Адметны таксама і спосаб падачы: фільм выглядае быццам бы цэльным, без мантажных злепак.

Стужка атрымала мноства ўзнагарод, сярод якіх «Залаты Глобус — 2015» за найлепшыя сцэнар і мужчынскую ролю (Майкл Кітан), а таксама намінаваная на «Оскар-2015».

**Настасся Уласава**



20 студзеня памёр Анатоль Грыцкевіч — **эпахальны беларускі гісторык**.

# Анатоль Грыцкевіч. Вялікі ў малых кроках

Тэмы яго даследаванняў нібы вынікалі з гісторыі яго роду — грамадзянская вайна, з куламесы якой ён узняў Слуцкае паўстанне і асобу Булак-Балаховіча, генеалогія беларускай шляхты, гісторыя сярэднявечнага Слуцка.

Грыцкевіч нарадзіўся ў савецкім Мінску, але род яго вёўся з-пад вялікакняскага Слуцка. Род быў шляхецкі, але ўжо ў сярэдзіне XVII стагоддзя малазямельны. Анатолю ды яго роднаму брату Валянціну, калі б не савецкая ўлада, у спадчыну дасталося б усяго па гектары. Не дзіва, што іх бацька зрабіўся бальшавіком.

Як тысячы беларусаў, Пятро Грыцкевіч быў загітаваны на франтах Першай сусветнай. «Ён пазнаёміўся з бальшавікамі, а ў бальшавікоў былі вельмі добрыя лозунгі: зямля — сялянам, заводы — рабочым, мір — народам. За гэтыя тры лозунгі можна было ваяваць з кім заўгодна», — іранізаваў Анатоль Грыцкевіч у гутарцы з радыё «Свабода». Бацька потым партызаніў супраць палякаў, быў дырэктарам школы, прафсаюзным ды партыйным работнікам у міжваенным Мінску і загінуў у 41-м пад Масквой — камісарам батальёна.

У сям'і камісара гаворка пра шляхецкае паходжанне ніколі не заходзіла. Гэта пасля Анатоль Грыцкевіч сам усё раскапаў. Аж да таго, што знайшоў у Літоўскай Метрыцы згадку пра прапродка Юхна Грыцкевіча — удзельніка бітвы пад Оршай.

Гэтай бітве была прысвечаная апошняя кніга Грыцкевіча — «Сцягі Оршы», якая выйшла ў 2014 у афармленні Змітра Герасімовіча з прадмовай Уладзіміра Арлова.

## Універсітэты

У адрозненне ад Ткачова ці Скалабана, Грыцкевіч прыйшоў да гісторыі з такой аддаленай дзялянкі, як медыцына.

І з будучай жонкай, Адай Вячаславаўнай, ён пазнаёміўся ў медінстытуце, дзе абое вучыліся ў канцы 1940-х. «Ён быў гісторык ад нараджэння, ад Бога, толькі гісторыяй і цікавіўся, але маці штурхнула яго ў медыцыну, — кажа спадарыня Ада. — Часы былі такія, яна баялася гісторыі».

Ада Вячаславаўна так і засталася ў медыцыне, адпрацаваўшы шмат гадоў у Інстытуце эпідэміялогіі. А яе муж, кароткі час папрацаваўшы доктарам санэпідэмстанцыі, скончыў завочна Інстытут замежных моваў, пасля гістфак БДУ і ўжо ў 1959-м працаваў у Інстытуце гісторыі АН. Навошта быў ін'яз? «Ён хацеў чытаць крыніцы на замежных мовах».

## «Пакажыце мне месца хоць адной бітвы»

Дзякуючы неверагоднай працаздольнасці, Грыцкевіч



**Анатоль Грыцкевіч**

(31 студзеня 1929—20 студзеня 2015) — беларускі гісторык. Доктар гістарычных навук (1986), прафесар (1987). Нарадзіўся ў Мінску. У 1950 скончыў Мінскі медычны інстытут. У 1955 — Мінскі педінстытут замежных моваў, у 1958 — БДУ. Ад 1959 — у Інстытуце гісторыі АН Беларусі, ад 1975 — загадчык кафедры Мінскага інстытута культуры. Даследаваў гісторыю Беларусі перыяду феадалізму, прыватнаўласніцкія гарады, гістарыяграфію, рэлігійныя праблемы ў ВКЛ. Таксама гісторыю Беларусі часоў барацьбы за незалежнасць у ХХ ст. Быў сябрам КХП — БНФ.

здолеў з драбностак, рассеяных па архівах, скласці для сябе ясную карціну беларускага мінулага. Многія ці шмат якія факты, вядомыя сёння школьнікам, выцягнуў з забыцця менавіта Грыцкевіч.

«Ён быў упэўнены, што Вялікае Княства Літоўскае было не дзяржавай літоўскіх феадалаў, а беларуска-літоўскай, — кажа гісторык Анатоль Сідарэвіч. — Ён адстойваў гэта. Казаў: пакажыце мне месца хоць адной бітвы, пакажыце, дзе ў хроніках напісана пра захоп. Адным з першых ён пачаў аднаўляць праўду і пра тое, што Рэч Паспалітая была федэрацыяй. Што ВКЛ мела аўтаномію, сваё войска, законы, урад, фінансы. А колькі ён займаўся гісторыяй ВКЛ да Люблінскай уніі — і Попісам войска, і Статутамі ВКЛ... Кансультаваў і пісаў для такіх салідных энцыклапедычных выданняў, як «Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588», «Францыск Скарына і яго час». А яго артыкулы ў трохтомнай энцыклапедыі «Вялікае Княства Літоўскае»?

У БССР жа да сярэдзіны 1980-х фактычна было забаронена пісаць праўдзівую палітычную гісторыю Беларусі. Нельга было пісаць, што Полацкае княства жыло асобным жыццём ад «Кіеўскай Русі», што вялікі князь Альгерд — вызваліцель Украіны... Анатоль Пятровіч гэта ўсё ведаў, але рабіць публікацыі пра гэта ніхто б не дазволіў. І Грыцкевіч даводзілася займацца сацыяльна-эканамічнай гісторыяй. І ён знайшоў сваю дзялянку — гэта жыццё беларускіх гарадоў у XVI—XVIII стагоддзях. Але і там ён мусіў пісаць пра «класавую барацьбу», бо так патрабавалася».

## Малыя крокі

«Трэба разумець, што такое была гістарычная навука ў 1940-я і пасля, — працягвае Сідарэвіч. — У выніку хапуноў 1930-х была знішчаная маладая нацыянальная гістарычная школа. І ў 1940-я можна было напісаць манаграфію пра стварэнне БССР — і не згадаць у ёй нікога, апроч Леніна, Сталіна, Мяснікова і яшчэ пары-тройкі дзеячаў. Усе астатнія былі ворагі народа, а значыць, пад забаронай. Утваралася дэперсаналізаваная гісторыя, проста схема. Толькі пасля ХХ з'езда КПСС сітуацыя пачала трохі мяняцца.

І Анатоль Пятровіч быў сярод тых, хто малымі крокамі рыхтаваў адраджэнне беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі».

У кнігах, выдаваных за савецкім часам, гісторык не мог абысці ідэалагічныя моманты. «Яго выданая ў 1987 кніга «Вакол «Слуцкага паўстання» (Барацьба з контррэвалюцыяй у Беларусі ў апошні перыяд грамадзянскай вайны)» ацэньвала Слуцкі збройны чын у негатыўным святле, але гэта была першая вялікая праца пра паўстанне. Там былі імёны і факты, а на ідэалагічныя ацэнкі людзі разумныя не звярталі ўвагі», — кажа гісторык Ніна Стужынская, даследчыца ўзброенай антысавецкай барацьбы ў 1920-я.

«З кніжкі «Вакол «Слуцкага паўстання» вырасла Грыцкевічава праца пра савецка-польскую вайну за Беларусь, прэзентаваная ў 2013-м, — адзначае Сідарэвіч. — Кніжка ж пра Слуцкае паўстанне выйшла таму, што гэты збройны чын прапагандавалі нашы эмігранты праз газету «Голас Радзімы». Гэта была так званая контрпрапагандысцкая акцыя. Ці многа людзей Беларусі ведалі пра Слуцкае паўстанне? А тут у пакупнікоў газет перад вачамі ляжыць кніжачка з інтрыгоўным загалоўкам... А калі насталі новыя часы, хто кансультаваў шаноўную публіку і зрабіў публікацыю ў «Спадчыне» (здаецца, там)? Ведама ж, чалавек, які вывучаў дакументы, крыніцы. З іншага боку, пры Лукашэнку зноў паўсталі праблемы з асвятленнем Слуцкага паўстання ў дзяржаўных выданнях. Артыкул пра яго ў 6-м томе «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» не падпісаны. Чаму? Ды таму, што аўтар, Анатоль Грыцкевіч, не згадзіўся з праўкамі цэнзараў.

## Трэба было абмацюкаць

«Сёння цяжка такое ўявіць: многія імёны былі пад забаронай. І працягваць іх у энцыклапедыі, згадваць у даследаваннях можна было толькі тады, калі добра абмацюкаеш, — тлумачыць Сідарэвіч. — Вось, напрыклад, Анатоль Пятровіч піша для БелСЭ артыкулы пра магнацкія фаміліі. Працягвае генеалогіі магнатаў у савецкую энцыклапедыю! Але на пачатку артыкула абавязкова трэба было адзначыць, што тыя ж Радзівілы — «жорсткія эксплуататары беларускага народа». А пра нейкі род праскочыла і без «эксплуататараў»: рэдактар не адсачыў, а аўтар сам не напісаў».

## «Толя чудачіт»

Грыцкевіч вылучаўся з шэрагу савецкіх гісторыкаў не толькі тым, што ведаў мовы. Ідэолагі інстынктыўна адчувалі ў ім чужога. Таму, кажа Сідарэвіч, Грыцкевічу не знайшлося месца ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. Яго туды не пускаў Лаўрэн Абэцэдарскі — адзін з стаўпоў той самай каланіяльнай гісторыі 40-х.

«Толя чудачіт», — казаў Абэцэдарскі пра Грыцкевіча, ведаючы пра яго аднадумства, напрыклад, з апальным у БССР гісторыкам Мікалаем Улашчыкам.

У выніку Грыцкевіч трыццаць гадоў працаваў у Інстытуце культуры — другараднай як на гісторыка пляцоўцы.

## Браты Грыцкевічы

Апавядаючы пра братоў Анатоля і Валянціна Грыцкевічаў, Сідарэвіч пару разоў механічна іх называе «браты Луцкевічы». За гэтай памылкай нешта большае, чым падабенства ў гучанні прозвішчаў. «Анатоль Пятровіч і яго малодшы брат Валянцін, які працаваў у Піцеры, утваралі своеасаблівы дыскусійны клуб. Мне цікава было б пачытаць іх перапіску. Як яны ўзгадняслі пазіцыі ў даследаваннях, пра што спрачаліся, да якіх крыніц, недасяжных тут, удавалася падступіцца ў Піцеры», — кажа гісторык.

## Кансультант

Сваімі ведамі Грыцкевіч ахвотна дзяліўся. «Ён кансультаваў мяне, калі я выкладаў гісторыю ў Беларускім ліцэі, — згадвае Сідарэвіч. — Бывала, тэлефануеш яму і пытаешся: «Анатоль Пятровіч, вось вы пісалі тое і тое». А ён перапытае: «А дзе я гэта пісаў?» Я нагадваю яму пэўную публікацыю і атрымліваю грунтоўную кансультацыю. А нашы гутаркі ў 1980-х? Пра слуцкую даўніну, пра збройны чын, генерала Булак-Балаховіча... Калі б не Анатоль Пятровіч, я, пэўна, ніколі б не паехаў у віленскія архівы».

## Пахаваюць з маці і братам

Грыцкевіч пачаў жыццё ў Мінску, у доме на плацы Волі. Спачне ён на мінскіх Усходніх могілках, у пантэоне славутых сыноў Беларусі. Пасля адпявання ў Чырвоным касцёле Мінска цела Анатоля Грыцкевіча было крэміраванае. Прах, згодна з яго жаданнем, пахаваюць у магіле маці, дзе пахаваны і прах яго брата Валянціна.

СМ

**Як Караткевіч Грыцкевічам адпомсціў**

У аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха» згадваюцца збяднелыя шляхціцы Грыцкевічавы, якія кібіткай ездзяць то на імяніны, то на хрысціны, і гэтак жывуць з ласкі багацейшых сваякоў. Расказваюць, што гэта была помста Валянціну Грыцкевічу, малодшаму брату Анатоля. Канфлікт адбыўся падчас нейкае бясѣды. Валянцін Грыцкевіч быў там з маладой пагляднай жонкай, якой Уладзімір Караткевіч пачаў аказваць знакі ўвагі. Грыцкевіч жорстка абсек залётніка. Ганарысты Караткевіч у адказ ганебна выпісаў Грыцкевічаў у сваім творы.

**Спачуванні праз nn.by**

Ад нас пайшоў выдатны гісторык і сапраўдны беларус. Грыцкевіч шмат у чым быў прыкладам для іншых даследчыкаў гісторыі Беларусі і проста для людзей, многа зрабіў, паказваў, як трэба адстойваць сваё і не здавацца. Шкада, такія людзі адзін за адным сыходзяць!

**Валянцін Голубеў**

Разам з ім адыходзіць цэлая эпоха ў беларускай гістарычнай навуцы. Чатыры апошнія дзесяцігоддзі ён шмат у чым вызначаў аблічча нашай навукі, падтрымліваў яе высокі імідж у навуковым свеце. Ён — яе гігант, апора нацыянальнай канцэпцыі беларускай мінуўшчыны. Вялікі патрыёт сваёй краіны, ён нёс у айчынную навуку і сучаснае жыццё сакавітую беларускую мову.

**Святлана Марозава, доктар гістарычных навук, прафесар**

Шчыра шкадую... Мае спачуванні ўсім родным і блізкім, усім, каму не ўсё роўна. Лепшыя людзі адыходзяць...

**Язэп Паўловіч**

Мы страцілі яшчэ аднаго патрыёта Беларусі. Вечная памяць.

**Сяржук Бахун**

Ščyra smutkuju...

**Vadzim Aleksandrovič**

Далучаюся да ўсіх спачуванняў ды шкадобы.

**Якуб Лапатка**

Некалькі гадоў працавала на кафедры, якую ўзначальваў прафесар Анатоль Грыцкевіч ва Універсітэце культуры. Шляхетны, у самым лепшым значэнні гэтага слова, спадар Грыцкевіч умеў паводзіць сябе з гонарам, але добразычліва і прыязна. Усё зробленае ім застанецца.

**Таццяна Луцэвіч**

Вечная памяць годнаму чалавеку! Прымі, Божа, ды далучы да дзядоў душу пана Анатоля.

**Васіль Грыбоўскі-Гурыновіч**

Вечная памяць!

**Лявон Баршчэўскі**

Светлая, вечная памяць рыцару змагання за Беларусь!

**Уладзімір Сіўчыкаў**

Усё, што апублікаваў прафесар А. П. Грыцкевіч, не сорамна чытаць. Шкада, што жыццё такіх асоб не бясконцае...

**Мікола Сяменчык**

# Глеб Лабадзенка: **Я гатовы ісці ў партызаны, пускаць цягнікі пад адхон**

Глеб Лабадзенка — без сумневу самы беларускамоўны чалавек краіны. Ён вядзе моўныя курсы, выдае кніжкі, піша скаргі ў дзяржаўныя органы і робіць яшчэ шмат чаго карыснага. У інтэрв'ю «Нашай Ніве» Глеб разважае пра талерантнасць, «беларускае гета» і крытыкаў, а таксама расказвае, **каго не хапае Беларусі**.



НАСТАСЯ ХРАЛОВІЧ

### «Сустракалі Новы год на Лепельскім возеры з сябрамі — спалілі лазню»

**«Наша Ніва»: Мы зараз з Вамі сядзім у блінной. Вы бліны любіце?**

**Глеб Лабадзенка:** Магу пад настрой пачаставацца. У мяне бліны асацыююцца з вёскай, таму што ў вёсцы, дзе я бавіў школьныя канікулы, у кожнай хаце стаяў мех мукі. І мяне, як дзіця гарадское, выкармлівалі ўсялякімі далікатэсамі. А ў суседскіх дзяцей было працей: «Баба, хачу есці!» — зачарпнула мукі, рашчыніла бліны. І мне здаваліся гэтыя бліны невераготнай стравай! А другая фантастычная страва — скібка. Калі бралася луста чорнага хлеба, пасыпалася цукрам, потым у рот набіралася малако ці вада — і так гэта ўсё палівалася. Я бачыў, як гэта робяць вясковыя дзеці, прыбягаў дадому і мяне аж калаціла. Казаў, што таксама хачу скібку. Так бывае, што не заўсёды далікатэсы — самае смачнае.

**«НН»: А дома ў Вас хто бліны пячэ?**

**ГЛ:** Мы рэдка дома пячом бліны. У мяне праца сядзячая, я стараюся есці менш мучнога, бо і так на фоне жонкі-прыгажуні выглядаю як Пумба. А вось дранікі раблю толькі я. Проста я ўвогуле мала чаго ўмею гатаваць, таму, калі яна яшчэ і дранікі будзе рабіць, атрымаецца, што я не гатую ўвогуле нічога.

**«НН»: Якія адметныя традыцыі ёсць у сям'і Лабадзенкаў?**

**ГЛ:** Я не люблю розныя схемы і графікі. Напрыклад, Новы год. Для мяне гэта не свята ніякае. Вось Божае Нараджэнне, канечне, свята. Я такі бессістэмны чалавек: устаю не па графіку, кладуся не па графіку. І таму самая галоўная традыцыя, каб была любоў і каханне. А ўсё астатняе...

**«НН»: А з Новым годам што не так?**

**ГЛ:** Новы год застаўся ў дзяцінстве. Тады я любіў гэтае свята: куча сваякоў, куча падарункаў пад ялінкай чакае... Гэта як першае каханне з дзіцячага садка — яно павінна застацца там. І цяпер я абсалютна спакойна стаўлюся да Новага года. «Дзе мы будзем сустракаць?» — «Дзе скажаш, там і будзем». Хоць было некалькі вясёлых сустрэч Новага года. Некалькі год таму сустракалі на Лепельскім возеры з сябрамі — спалілі лазню.

**«НН»: Падрабязней можна?**

**ГЛ:** Нанялі цёплай сяброўскай кампаніяй хатку на беразе Лепельскага возера — і Новы год сустракалі ў літаральным сэнсе на лёдзе. Як нас цмок не з'еў, не ведаю... А наранiцу 2 студзеня сусед грукае да нас у дзверы і кажа: лазня гарыць! Спачатку падумалі, што там, мабыць, парыцца нехта. Але і праўда: лазня гарэла! Выклікалі пажарных. Яны хутка прыехалі, усё патушылі. Цвярозыя, дарэчы, — раніцай 2 студзеня! Пасля прыезду гаспадар дома. Паглядзеў і кажа: «Вы не думайце, я псіхаваць не буду. Я ўжо за два забойствы адседзеў, я ўжо не псіхую». Па выніку ўсё скончылася нармальна. Там проста было парушана нешта ў самой лазні: гарышча было саломай засланае — а так нельга. Інакш бы прыйшлося аддавацца яму ў рабства.

### «Ты ж б'ешся з двухгадовым чалавекам!»

**«НН»: Хто ў Вас у сям'і больш з малым возіцца?**

**ГЛ:** Жонка, канечне. Я ж увесь у справах. Але па магчымасці стараюся дапамагаць. Іншая справа, што я, каб і хацеў, не магу цэлы дзень дзіцём займацца. Таму вельмі ўдзячны жонцы, што ў мяне ёсць магчымасць займацца творчасцю, бо выхаванне дзіцяці — гэта не меншая праца, чым любая астатняя.

**«НН»: Глеб Лабадзенка — строгі бацька?**

**ГЛ:** Не, ну які строгі? Можна мяне, вядома, раз'юшыць, калі малы цэлы дзень ужо дурэе. А так гэта, канечне, любімы сынок: і ў сраку яму цалуем, і ўсё, што хоча, робім. Я, калі б і хацеў, не магу строіць з сябе строгага.

**«НН»: Можаце яго адлупцаваць?**

**ГЛ:** Як ты будзеш свайго любімага сыночка лупцаваць? Канечне, можна па срацы шлёпнуць у педагагічных мэтах, але каб адлупцаваць — дык не. Ты ж б'ешся з двухгадовым чалавекам!

**«НН»: Калі апошні раз біўся Глеб Лабадзенка?**

**ГЛ:** Ніводнага разу. Усё жыццё вырашаў канфлікты дыпламатычным шляхам.

### «Я не настроены быць талерантным да таго, хто тут свае парадкі наводзіць»

**«НН»: Вы неяк казалі, што Гервасій Выліваха з «Ладдзі Роспачы» Караткевіча — ідэальны беларус. Цытую: «заўсёды нападпітку, на плячах сокалы, на сёдлах жанчыны, у вачах — няма Божага страху».**

**ГЛ:** Гэта ж Рэмба! Гервасій Выліваха — гэта каўбой, супергерой. Бачыце, я, на жаль, не заспеў самога Караткевіча. Але яго блізкія сябры сведчаць: ён пісаў Гервасія Выліваху з сябе. І вось гэтыя жанчыны на сёдлах — гэта сімвал таго, што можа быць інакш. Гэта не значыць, што ўсім трэба хадзіць нападпітку. Ён жа быў рэалізаваным чалавекам — жыў у замку, хоць і паўразбураным. Усё было. Жанчыны былі, грошы былі, віно было. Сімвал таго, што ўсё ўдалося. А пасля гэтага можна і пасвяткаваць трошкі.

**«НН»: Наколькі Глеб Лабадзенка блізкі да гэтага вобразу?**

**ГЛ:** Я нападпітку не хаджу ніколі, і жанчыны на сядле ў мяне не ляжаць. Але самая важная цытата з «Ладдзі Роспачы» іншая: «Рабі нечаканае, рабі, як не робіць ніхто, — і тады пераможаш». Вось гэта, я лічу, павінен быць дэвіз усіх беларусаў. Гэта містычны твор. Я не так шмат сустракаў маленькіх (па аб'ёме) твораў, якія б маглі настолькі перакуліць твой светапогляд. Гэта, напрыклад, «Чайка Джонатан Лівінгстан» Баха альбо «Маленькі прынц». Як спявае Лявон Вольскі, «ламай сцэнар, ламай сістэму». Вось чаго нам не хапае. Напрыклад, мая бабуля заўжды казала: «А што людзі падумаюць?» Гэта капец проста! А што людзі падумаюць?! І гэта замкнёнае кола.

**«НН»: Расказваючы пра Лепельскае возера, Вы ўзгадалі цмока. Ягоны вобраз — мужык, які сядзіць сабе сядзіць, а пасля перакульваецца і ператвараецца ў цмока — гэта адлюстраванне нашай партызанскай культуры?**

**ГЛ:** У нас ёсць такая негатыўная рыса — спрадвечныя асаблівасці нашага народа выкрываць як недахопы. Напрыклад, мы такія партызаны — гэта нібыта недахоп. Дык гэта ж перавага! Невядома, што будзе заўтра. Я, прынамсі, гатовы, як мой прадзед Захар Храмцэвіч, ісці ў партызаны, пускаць цягнікі з «ватаю» пад адхон. Вось у мой пад'езд кітайцы панаехалі і сталі смецце кідаць на смеццеправода. Я залез у Google Translate, пераклаў на кітайскую фразу: «Яшчэ раз, сабака, паставіш тут смецце — парву як Тузік грэлку» — і павесіў там. Усё, пакеты зніклі і кітайцы паўз сценачку ходзяць. Ці мне трэба было цалаваць тых кітайцаў, якія мне пад'езд засмечваюць? Пабачу, што будуць смецце кідаць, — спушчу з сёмага паверха!

**«НН»: Нешта гэта не спалучаецца з тым, што Вы ні разу не біліся.**

**ГЛ:** Дык я пару так выпускаю, іншым чынам *(усміхаецца)*. Адкрыў інтэрнэт, пацяўкаў-пацяўкаў — ды пайшоў спаць. Там да раніцы бульбасрач ідзе, а я сабе сплю. Ашчаджаю гэтак нервы! Устаю, а там сто каментаў. Але я не ўвязваюся ў гэтыя баталіі, нічога нікому не даводжу, асабліва тролям.

### «Вось я пішу лісты. А ты што робіш? Цяўкаеш на Facebook?»

**«НН»: Але Вы мне таксама казалі, што Вы зануда. Гэта Ваша асабістае меркаванне?**

**ГЛ:** У мяне быў цікавы досвед: я некалькі год вёў школу маладога журналіста. Не ведаю, што думалі тыя людзі, якія да мяне туды хадзілі. Я з адукацыі журналіст. А журналіст — такая дзіўная прафесія, што больш нікуды не пойдзеш працаваць. І таму я ў гэтай школе быў вельмі патрабавальны да сваіх навучэнцаў. Дзяўчаты часам плакалі, скайп адключалі. Але гэта дало плён — многія з іх засталіся працаваць у журналістыцы. І мне не шкада, што я тады быў такім занудам.

**«НН»: Яшчэ пра занудства. Я калі ў Facebook бачу, колькі лістоў і зваротаў Вы пішаце і як рэагуеце на адказы, у мяне проста ў галаве не ўкладваецца, адкуль столькі часу і энергіі.**

**ГЛ:** На гэта шмат часу трэба? Пяць хвілін у дзень! Разумееце, напрыклад, як з судом з тым ЖЭСам. Той галоўны інжынер ні ў чым не вінаваты, ён — плён нашага грамадства. Але некаму гэтая справа нагадала, што ёсць беларуская мова, што яна для кагосьці важная. Я не думаю, што калі нейкая крама заплоціць 500 тысяч штрафу ці атрымае папярэджанне, з імі нешта здарыцца — у іх абароты ў мільёны даляраў. Напрыклад, пра тую справу напісалі ва ўсіх суседніх дзяржавах, мне пісалі людзі з-за мяжы: «Мы думалі, што ў вас з мовай ужо ўсё — гамон, але ж атрымліваецца, што не так». Да таго ж лісты ў абарону і дзеля папулярызацыі мовы — інструмент, які нам дае сама дзяржава. Чаму ж яго не выкарыстоўваць?

### «У нас усе хочуць міністрамі быць. А трэба працаваць»

**«НН»: Добра. Заўтра Глеба Лабадзенку прызначаюць міністрам культуры. Што ён робіць?**

**ГЛ:** Тое, што і цяпер, толькі ўжо маючы большыя рэсурсы. Курсы назаўтра адкрываюцца ў кожным горадзе Беларусі. Кніжку Быкава выдадзім накладам не пяць, а пяцьсот тысяч асобнікаў.

**«НН»: І будзем прадаваць яе, як у Савецкім Саюзе, у нагрузку да іншай літаратуры?**

**ГЛ:** Не. Вось у гэтым годзе мы выпусцілі дзве кнігі Быкава без цэнзуры агульным накладам пяць тысяч асобнікаў — без грантаў, дзякуючы падтрымцы мецэната Паўла Бераговіча і выдаўца Ігара Віркоўскага. І без прымусу прадалося ўжо чатыры.

**«НН» Але, здаецца, нашым людзям зараз будзе больш цікава нейкая Данцова, чым Быкаў, ды яшчэ і на беларускай мове.**

**ГЛ:** Можна глядзець у абсалюце, а можна ў параўнанні. У абсалюце — усе нашыя справы — гэта такая мышыная вазня. Зараз выйдзі на вуліцу і спытай у людзей пра Быкава. Мала хто хоць пару твораў назаве. Але давайце паглядзім у параўнанні. Год таму такога не было, каб прадавалася чатыры тысячы экзэмпляраў такой кніжкі на беларускай мове. Беларускамоўныя кніжкі, якія прадаваліся б такой колькасцю, наколькі я ведаю, было толькі дзве за апошнія гады: «Краіна Беларусь» Арлова і «Скарбы Беларусі» Лукашэвіча. Але гэта кніжкі іншай катэгорыі — падарункавыя альбомы. Таму гэта дасягненне.

**«НН»: Як Вы ставіцеся да дэфініцыі «беларускае гета»?**

**ГЛ:** Я даўно з гэтым не сутыкаюся. Да нас на курсы ходзяць 90% рускамоўных людзей, якіх я раней не ведаў. І не толькі па Менску, па ўсёй краіне. Я раней не заўважаў, у якім камфортным свеце мы жывём. Прыходзіш на канцэрт — там усе знаёмыя. Прыходзіш на прэзентацыю і гадзіну там з усімі вітаешся. Гэта ж класна, вельмі камфортна. Але больш класна, што на курсы прыйшлі людзі, для якіх гэта ўсё невядома. І нашыя курсы — гэта ж не толькі дзве гадзіны ў галерэі. Мы таксама ладзім экскурсіі, неўзабаве пачнуцца беларускамоўныя кінапрагляды, новы сайт адкрываецца... Мы хочам гэтым людзям даць усё ў адным месцы: і кніжкі, і мульцікі, і фільмы — усё-ўсё-ўсё.

**Гутарыў Зміцер Міцкевіч**




Прэзідэнт Украіны Пятро Парашэнка пакланіўся помніку беларусу Міхаілу Жызнеўскаму ў Кіеве.




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Бураўкіна няма сярод нас, а п'еса ў ягоным перакладзе пастаўленая. Гэта п'еса пра вайну, дакладней супраць любых войнаў. 21 студзеня ў мінскім Палацы культуры прафсаюзаў адбылася прэм'ера музычнай камедыі Бертальта Брэхта «Матухна Кураж і яе дзеці». Сучасную апрацоўку тэатральнай класікі ажыццявіў беларускі незалежны «Тэатр Ч» і рэжысёр Міхаіл Лашыцкі. Адной з галоўных дзейных асоб у камедыі стала жывая і аўтарская музыка ў выкананні гуртоў «ili-ili» і Naka.



Надзея Скардзіна для сюжэта на biathlonworld.com надзела «вышымайку» і прыгатавала з калегамі піцу. Надзея Скардзіна — бронзавы прызёр Алімпіяды-2014 у Сочы ў індывідуальнай гонцы. Яна родам з Санкт-Пецярбурга, але даўно выступае за зборную Беларусі.



REUTERS

Шэньчжэнь, Кітай. Супрацоўнікі кампаніі Foxconn падчас абедзеннага перапынку. Кіраўніцтва найбуйнейшага ў свеце вытворцы электронікі нярэдка крытыкавалі за цяжкія ўмовы працы. Нядаўна кампанія была вымушаная павысіць заробкі ў Шэньчжэні пасля серыі суіцыдаў сярод рабочых.



## Анекдоты і жарты

* * *

На новай купюры 500 000 рублёў павінен быць Лукашэнка. Гэта застрахуе рубель ад дэвальвацыі.

* * *

Прыходзіць Рабіновіч да рабіна. Ён хацеў бы пачаць сваю справу, але каб без усякай рызыкі.

Рабін падумаў і дае параду:

— Гандлюй мукой і дошкамі. З гэтым не прагарыш. Жывым заўсёды патрэбен хлеб, мёртвым — дошкі на труну.

Прайшоў год, Рабіновіч збанкрутаваў.

— Рабі, — заўляе ён, — вы сказалі, што жывыя і мёртвыя заўсёды будуць мець патрэбу ў маім тавары. Але ў нашым мястэчку людзі не жывуць і не паміраюць, яны пакутуюць....

* * *

Жыць трэба так, каб пасля тваім імем назвалі сіндром.

* * *

Расіяне прыехалі ў Мінск і не змаглі знайсці гасцініцу «Белоруссия».

* * *

Калі ў вас не клеіцца размова з таксістам, паглядзіце ў акно і скажыце: «Давялі, блін, краіну!» Займальная гутарка гарантаваная.

* * *

– У рэзюмэ вы паказалі, што ваш талент — ляжаць у дэпрэсіі?

– Так.

– Але гэта не талент!

– Вы проста не бачылі мяне ў справе.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Арышт прыяцеля Льва Талстога.** Надвочы з Яснай Паляны вызвалі ў Тулу і там арыштавалі прыяцеля Льва Талстога, д-ра Макавецкага, каторы лячыў вялікага пісьменніка праз апошнія 6 гадоў і быў пры ім да смерці. Арышт Макавецкага мае супольнае са справай, за каторую арыштаваны сакратар Талстога Булгакаў.

**«НН». №4. 1915.**

**Міжнародны скандал для ўнутранага карыстання.** Справу аканома чэшскага пасольства ў Мінску Паўла Кржываглаваго цяпер расследуе і чэшская паліцыя. Дыпламатычны работнік абвешчаны персонай нон грата за яго сэксуальныя схільнасці. Іронія сітуацыі ў тым, што пан Кржываглавы прыватна не раз захапляўся дэмакратыяй па-беларуску. Скандал з Кржываглавым прачытваецца як спосаб новага кіраўніка КДБ Сцяпана Сухарэнкі гучна заявіць пра «новую эфектыўнасць працы», якой ад спецслужбы запатрабаваў Лукашэнка.

**«НН». №4. 2005.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7001. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 27.30 20.01.2015.
Замова №161.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614
9 771819 161008 15004